Трымайся праўды

# Абажур

№ 6 (102) 2013

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
The Belarusian Association of Journalists



**Гульня ў журналістыку** . . . . 2

Можна падумаць, што навучыцца журналісцкаму майстэрству цяпер стала гэтак жа лёгка, як пагуляць у доктара або згатаваць дранікі.

**Расія, ад якой не ўцячэш на Месяц** . . . . . 39

У таго, хто рэгулярна спажывае казённы медыйны прадукт, ва ўсякім разе прысвечаны дачыненням з Расіяй, можа элементарна паехаць дах.

**Паляванне працягваецца** . . . . . . . . . . . . 12

Вельмі часта і нечакана, як Піліп з канапель, выскокваюць і засланяюць аб'ектыў шырокія спіны з надпісам «Міліцыя».




Адмысловую паштоўку і напамін пра сутнасць журналісцкай прафесіі скіравалі сябры ГА «БАЖ» міністру інфармацыі Беларусі Алегу Пралянскоўскаму. Міністэрства адклікала ліцэнзію ў прыватнага выдавецтва «Логвінаў», што выпусціла шматпакутны альбом «Прэс-фота Беларусі 2011», прызнаны ўладамі «экстрэмісцкім».

Падчас круглага стала «Станем за вольнае слова», зладжанага БАЖ, выдаўцы і журналісты канстатавалі: прадстаўнікі ўлады розных узроўняў маніпулююць словам «экстрэмізм», даючы жорсткія вызначэнні ўсялякаму крытычнаму погляду на жыццё ды ўсяму, што чынавенству не даспадобы.

Па прынцыпе «не даспадобы» на пачатку лістапада, напярэдадні «Дзядоў», мінская друкарня «Карандаш» адмовілася друкаваць падрыхтаваную Радыё Свабода мапу Усходніх могілак «Беларускі некропаль» з пазначэннем месцаў пахавання 50 выбітных беларусаў. Адміністратар друкарні Алена Рыбак абвесціла мапу агітацыйнай, а Радыё Свабода — антыдзяржаўным.

ГА «БАЖ» звярнулася да кіраўніцтва «пільнай» друкарні з запытам, папрасіўшы патлумачыць, якія нарматыўна-прававыя акты даюць падставу для адмовы друкаваць мапу могілак.

Паштоўка «Журналісты — не экстрэмісты» ў дадатак павінна засцерагчы кіраўнікоў ад легкадумных палітычных ацэнак.

***Фота С. Балая***



абажур
ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS
ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

***Выдавец:*** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
***Перыядычнасць:*** 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.
№ 6 (102) 2013 г.

***Галоўны рэдактар***
Уладзімір Барысавіч Дзюба

***Фота на вокладках —***
Генадзя Верацінскага (1-я вокладка)
Уладзіміра Шарнікава (апошняя)

Выданне зарэгістравана
ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь,
рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009 г.

Падпісана да друку 15.10.2013 г.
Дата выхаду 20.11.2013 г.
Фармат 60х84/8.
Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк.
Наклад 600 асобнікаў.
Заказ №
Распаўсюджваецца бясплатна.

***Адрас рэдакцыі:***
***220030, г. Мінск,***
***вул. Камсамольская, 7–32.***
***Тэл./факс: (017) 203-63-66,***
***(029) 126-70-98***
***E-mail: abajur@baj.by,***
***baj@baj.by***
***Сайт: www.baj.by***

Друкарня ТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0552782 ад 01.10.2010 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10, 203-53-41,
(029) 623-74-10
medisont@gmail.com
www.medisont.com



**Гульня ў журналістыку . . . . . . . . . . . . . . . . . 2**
Т. Бублікава

**«О Божа! У нас дзяўчынка» . . . . . . . . . . . . . . 6**
С. Печанко

**Севярынец на волі! . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 9**

**Паляванне працягваецца . . . . . . . . . . . . . . 12**
А. Сцяпанава

**Як у нас у зялёным садзе… . . . . . . . . . . . . 16**
У. Дзюба

**Ірына Герашчанка:**
***«Журналісты павінны больш востра рэагаваць на ўсё, што прыніжае іх прафесію»*** **. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 21**

**Ганна Бакач:**
**насуперак рэпрэсіям . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 24**
А. Санаценка

**На Салавецкіх астравах —**
**дажджы… . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 30**
А. Белы

**Расія, ад якой**
**не ўцячэш на Месяц . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 39**
А. Класкоўскі

**За кулісамі палітыкі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 42**
Г. Кеснер

**Журналісты павінны**
**асвятляць падзеі адэкватна**
**пры любых абставінах . . . . . . . . . . . . . . . . . 45**

**Гісторыя вясковага п’янства . . . . . . . . . . . 46**
І. Хоміч

**«У Васіля Быкава быў шанс», —**
**так пасля яго скону гаварылі ўрачы**
**ў Празе і Мінску . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 49**
С. Шапран

**У калейдаскопе дзяцінства . . . . . . . . . . . . 54**
Д. Шэрлат

**Розыгрышы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 61**
В. Ледзянёў




# Гульня ў журналістыку

**Можна падумаць, што навучыцца журналісцкаму майстэрству цяпер стала гэтак жа лёгка, як гуляць у доктара або згатаваць дранікі. Надраў бульбы, дадаў, што трэба па рэцэпце, — ды смаж сабе. Прынамсі, такое лёгкае атрыманне прафесійных ведаў дэкларуе сучаснасць. Прапановы паспрабаваць сябе ў ролі журналіста можна пабачыць на аб'явах у сацыяльных цэнтрах, на старонках часопісаў ды ў рэкламе ў метро.**



*Таццяна БУБЛІКАВА*

## Асцярожна, дзверы адчыняюцца...

У мінскай падземцы там-сям вісяць абвесткі: запрашаем дзяцей ад 9 да 15 гадоў у «Школу вядоўцаў». Сярод іншага прапануецца навучанне журналісцкаму майстэрству. Дыстанцыйныя курсы «Еўрапейскай школы карэспандэнцкага навучання» таксама абзавяліся журналісцкай праграмай. Тут абяцаюць, што з «Ешко» вы асвоіце прафесію журналіста цягам 16 заняткаў (186 тыс. руб. за кожны). Журналістыка прапануецца разам з курсамі замежных моў, музыкі, танцаў, астралогіі...

Новае «хобі» з'явілася і ў сталічных пенсіянераў — студэнтаў «Мінскага ўніверсітэта трэцяга ўзросту», навучанне ў якім 10 кастрычніка пачалі каля сотні бабуль і дзядуль. Заняткі па журналістыцы (а таксама курсы замежных моў, псіхалогіі ды камп'ютарнай дасведчанасці) праходзяць двойчы на тыдзень на базе раённых цэнтраў сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Першы этап навучання бясплатны.

«Няўжо яны гэта сур'ёзна?» — міжволі ўзнікае пытанне на фоне блазнавання, што адбываецца каля ўваходу ў «магічны свет» журналісцкай прафесіі. І цяжка ўявіць, што для некаторых гэта робіцца гульнёй ды забавай.

З аднаго боку, мы маем сур'ёзны, грамадска значны занятак, місію — казаць людзям праўду, каб яны імкнуліся ў жыцці да лепшага. Аднак каб узяць на сябе такую адказнасць, трэба доўга вучыцца ды практыкавацца. Прафесія журналіста, шлях да якой далёка не такі просты, як хацелася б, камусьці здаецца ўсяго толькі прэстыжнай, рамантычнай справай, звязанай з рызыкай і небяспекай. Насамрэч сапраўдны журналіст карыстаецца даверам аўдыторыі дзякуючы сваёй непахіснай праўдзівай пазіцыі ды прафесіяналізму. З другога боку, ёсць дзеці, пенсіянеры ды іншыя грамадзяне, якіх падкупіў прэстыж прафесіі і якія не па ўласным жаданні, а з «лёгкай рукі» бізнесоўцаў абмінаюць падводныя рыфы ды вострыя вуглы журналістыкі. Калі ў такой падрыхтоўцы адсутнічае перспектыва прафесійнага развіцця, то журналістыка становіцца папросту легкадумнай справай.

## Гэта вам не жартачкі

Галіна Аляксандраўна — удзельніца праекта «Мінскі ўніверсітэт трэцяга ўзросту» — стала студэнткай факультэта журналістыкі. Да гэтага яна 40 гадоў працавала інжынерам-хімікам. У

інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь-1» жанчына кажа: «Мне цікава паказаць свае ўспаміны, як я іх апісваю... Некаторыя мае сябры казалі: "Навошта гэта табе трэба?.."»

Прафесія журналіста, шлях да якой далёка не такі просты, як хацелася б, камусьці здаецца ўсяго толькі прэстыжнай, рамантычнай справай, звязанай з рызыкай і небяспекай.

Даю сто супраць аднаго, што Галіна Аляксандраўна наўрад ці стане супрацоўніцай якой-небудзь рэдакцыі. Магчыма, пры занятках двойчы на тыдзень пажылым студэнтам журналісцкіх курсаў хопіць ведаў, каб зрабіць больш-менш добры артыкул ды апублікаваць яго. Аднак, падаецца, каб хобі стала прафесіяй, шансаў недастаткова. Асабліва ў сённяшніх рынкавых умовах, калі СМІ адчуваюць кадравы голад, але ўсё адно пагаджаюцца аплачваць працу толькі кваліфікаваных журналістаў. Пажылыя выпускнікі, якія атрымалі бясплатную адукацыю, паводле дзяржаўнай логікі, маглі б прынесці карысць шматлікім «раёнкам» краіны, тым самым хаця б часткова вызваліць маладых выпускнікоў ад прымусовага размеркавання. Толькі пра гэта ў праекце не ўзгадваецца. Хутчэй за ўсё, такое навучанне журналістыцы для пажылых людзей ёсць не больш як забавай, хобі ды сродкам асабістага развіцця. Але не датычыцца развіцця прафесіі.

Як выглядаюць перспектывы стаць журналістамі ў выпускнікоў «Школы вядоўцаў» для дзяцей? Калі такія перспектывы і ёсць, то вельмі аддаленыя. Школа набірае навучэнцаў ва ўзросце ад 9 да 15 гадоў. Па-першае, гэта якраз той самы ўзрост, калі душа рвецца больш да гульняў, чым да працоўнай дзейнасці. Па-другое, фармат самой установы, якая называецца «Р.Е.В.Ю. — хобіцэнтр Наталлі Раманавай», не прадугледжвае прафесійнага падыходу. Рэклама заахвочвае быць «ведущим, а не ведомым». Абяцае тры разы на тыдзень навучанне акцёрскаму ды журналісцкаму майстэрству, тэхніцы маўлення ды сакрэтам стылю. Безумоўна, для маленькіх гульцоў у журналіста ўсе гэтыя навыкі будуць карысныя. Сумневы выклікаюць далейшыя перспектывы.




Журналістыка — справа дарослых. Каб праявіць сябе ў друку або вэб-журналістыцы, малым не хапае прафесійнасці. Адзінае, што ім свеціць, дык гэта забаўляльныя праекты на тэлебачанні. Дзеці часта здымаюцца ў праграмах для развіцця, то бок для такіх, як самі. Бывае, самастойна або ў пары з дарослымі вядуць канцэрты. На жаль, у Беларусі для юных журналістаў не так ужо і шмат месца, каб было дзе разгарнуцца. На памяць прыходзіць прыклад Ксеніі Сітнік. Дзяўчынка пасля перамогі ў дзіцячым «Еўрабачанні» стала вядоўцай перадачы «Наша пяцёрачка» на тэлеканале «Лад», пакуль праект не закрылі ў 2009 годзе.

Хутчэй за ўсё, рэалізаваць веды ў галіне журналістыкі малады чалавечак зможа хіба што ў школе або дзіцячым лагеры як вядоўца канцэртаў творчай самадзейнасці. Выглядае, што і тут журналістыка з'яўляецца гульнёй. «Школа вядоўцаў» — гэта модны, асучаснены гурток накшталт савецкіх, дзе вязалі пруткамі або займаліся авіямадэляваннем.

## «Ешко» вучыць адчыняць дзверы

На тле разгледжаных прыкладаў журналісцкія курсы «Ешко» могуць падацца дастаткова прафесійнай базай для атрымання ведаў. Аўтары курсаў кажуць: «Прэстыж няпростай прафесіі журналіста заўсёды быў высокі і дазваляў адчыняць любыя дзверы. Вывучаючы наш новы курс, вы даведаецеся, як пісаць цікавыя тэксты і даставаць сенсацыйныя звесткі... Не менш важна ўмець падрыхтаваць любую інфармацыю да выхаду ў свет так, каб яна была цікавай, праўдзівай, пісьменнай, своечасовай і зразумелай... Вы падрабязна вывучыце асноўныя жанры журналістыкі... Не прапусцім такі часта ігнараваны нюанс, як дасягненне кантакту з аўдыторыяй. Вы вывучыце прынцыпы стварэння тэкстаў для розных відаў СМІ, пазнаёміцеся з асновамі таго, як рабіць відэаздымкі, ды з законамі мантажу. Мы раскажам, што ўяўляе сабой фота для прэсы і як зрабіць яго прыдатным для публікацыі. Вы даведаецеся, як арганізоўваецца праца ў малой і буйной рэдакцыях газеты і на тэлеканале, чым яны адрозніваюцца і хто якія функцыі выконвае ў гэтых калектывах».

Апісанне курса з 16 заняткаў заканчваецца абяцаннем: «Мы навучым вас складаць бізнес-план газеты, тэлепраекта, інтэрнэт-выдання... Засвоіўшы ўсю праграму курса, вы будзеце гатовыя ўзяць старт ужо як прафесійны журналіст».

На першы погляд, курс «Ешко» ўтрымлівае дастаткова шырокі спіс тэмаў, вывучэнне

якіх неабходнае для прафесійнага занятку журналістыкай, і нават больш. З іншага боку, калі ўлічыць, што ўвесь гэты аб'ём мяркуецца даць у 16 выпусках навучальных часопісаў, мы бачым, што за такі час можна паспець толькі азнаёміцца з прадметам ды скласці больш-менш структураванае ўяўленне пра яго.

Каб трымацца дакладнасці, я падлічыла, што колькасць гадзін, якую студэнт «Ешко» мусіць патраціць на занятні, адпавядае прыкладна двум месяцам навучання па ўніверсітэцкай адукацыйнай сістэме.

Дарэчы, пра адукацыю. У 2009 годзе Міністэрства адукацыі і навукі Украіны прызнала, што моўныя карэспандэнцкія курсы «маюць высокі навучальна-метадычны ўзровень і могуць выкарыстоўвацца як дадатковыя матэрыялы ў навучальна-выхаваўчым працэсе». Трэба меркаваць, што «журналісцкія курсы» таксама цягнуць не больш як на дадатковыя матэрыялы. Фірма абяцае выдаць пасведчанне «Ешко» аб заканчэнні курса журналістыкі. Але, скажыце, куды вы пойдзеце з гэтым пасведчаннем? Ізноў жа пра сур'ёзны падыход гаварыць не выпадае. Калі для падпісантаў «Ешко» курсы журналістыкі стануць больш чым забавай ды натхняць каго-небудзь на паступленне ў ВНУ, то гэта будзе добры вынік.



## Гульні пра журналістаў

Калі вас не ўразілі навачасныя школкі журналістыкі для пенсіянераў ды піянераў, то што вы скажаце пра наступнае?

Віртуальнае экспрэс-даследаванне паказала, што звычайныя абывацелі гуляюцца ў журналістаў даўно ды стала. Папулярнымі з'яўляюцца анлайн-гульні, дзе ў ролі «акул пяра» выступаюць героі мультфільмаў — Масяня, Спанч Боб ды іншыя. Гэтак, Губка Боб ходзіць па розных пакоях ды фатаграфуе смешных персанажаў; задача — сабраць як мага больш здымкаў. Масяня вырашыла паспрабаваць сябе ў ролі рэпарцёра вядомай бульварнай газеты; гэтая гульня ў жанры квэст. Таксама можна пагуляцца ў журналіста Джымі. Пачынаецца анлайн-гульня так: вы Джымі, які ўвайшоў у каюту, каб напісаць артыкул пра жанчыну, што, відавочна, там і памерла. Раптам вас абкружаюць зомбі...

> Сёння ў Беларусі кожны можа пагуляць у рэпарцёра — «сфоткаць» падзею на тэлефон ды напісаць пару сказаў, урэшце, пайсці на кароткатэрміновыя курсы.

Таксама ёсць забавы для дзяўчат. У «Capable Journalist» гульцам прапануецца апрануць журналістку для прамога эфіру. Гераіня — амбітная рэпарцёрка, якая збіраецца перадаваць інфармацыю па нацыянальным тэлебачанні.

Калі папярэднія прыклады маюць на мэце пацешыць аўдыторыю, то наступны ўтрымлівае асветніцкую задачу. Гаворка тут пра флэш-гульню, якую стварыла ГА «БАЖ» пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. Карыстальнік даведваецца, з якімі перашкодамі даводзіцца сёння сутыкацца беларускаму журналісту. «Перашкоды» ўвасабляюць амапавец, суддзя, кэдэбіст, чыноўнік. У гульні журналіст спрабуе ўсяго толькі дабрацца да камп'ютара, каб перадаць інфармацыю, то бок проста выканаць сваю работу.

## Уваход праз «чорны» ход

Для маладой беларускай журналістыкі лёгкі, несур'ёзны падыход да прафесіі, асабліва з боку аўдыторыі, для якой нас вывучылі пісацьвяшчаць, — гэта непрыемная навіна. У нашым грамадстве пакуль мала ведаюць пра тыя з'явы і праблемы, якія б аўтаматычна маглі наблізіць імідж прафесіі да суровай рэальнасці, зрабіць яе ў грамадскай свядомасці менш элітарнай ды больш зразумелай людзям. І добра, што ў нас пакуль няма «жоўтай» прэсы, якая толькі тым і жыве, што публікуе скандалы і плёткі пра «зорных» асобаў.

Памятаеце расійскую Свету Курыцыну з Іванава і яе «мы стали более лучше одеваться»? У дзяўчынкі каля выбарчага ўчастка рэпарцёр узяў інтэрв'ю пра дасягненні ўлады, у якім Света сыпала перламі, чым заслужыла дзікую папулярнасць. Праз некалькі месяцаў гэтая «прастачына» стала вядоўцай шоў «Луч Света» на «НТБ», расказвае пра «зорныя» тусоўкі, жыццё эстрады. Такіх камічных прыкладаў уваходу ў прафесію ды «пазафарматных» персон у

Беларусі бракуе. Магчыма, гэта адна з прычын таго, што беларуская журналістыка падобная да медыцыны: людзі валодаюць выключна спецыфічнымі ведамі ды, на іх погляд, выконваюць жыццёва важныя функцыі. І назіраць, як нехта гуляецца ў журналістыку, як мінімум, нязвыкла. Адбываецца, што называецца, кагнітыўны дысананс.

Але што ў гэтым дысанансе дрэннага, акрамя, магчыма, пакрыўджаных пачуццяў прафесійных журналістаў? Хіба што скажонае ўяўленне аб прафесіі, якое транслюецца ў галовы людзей. Можна падумаць, каб стаць журналістам, дастаткова за пару месяцаў навучыцца добра пісаць, гаварыць ды выглядаць, пасля чаго кожная рэдакцыя прыме вас у абдымкі. Можна падумаць, што дастаткова паказаць пасведчанне «Ешко» — і ўсе дзверы адчыняцца самі сабой.




Так, авалоданне прафесіяй становіцца надта даступным. І некаторыя калегі, магчыма, хвалююцца, што журналісты непазбежна пачнуць страчваць свой «элітарны» статус. А ці ён нам гэтак патрэбны?! Ці не галоўнае — зарабіць сабе імя, павагу чытачоў?

Дзеля суцяшэння супрацоўнікаў масмедыя, якія лічаць, што на іх «вотчыну» квапяцца «чужынцы», скажу наступнае.

## Адваротны эфект

На дзіва, у несур'ёзным стаўленні да прафесіі ёсць і пазітыўныя эфекты. Па-першае, ператварэнне журналістыкі ў гульню ёсць паказчыкам развіцця галіны. У таталітарных сістэмах усё адбываецца цэнтралізавана, пад пільным наглядам кіраўніцтва. А сёння мы бачым, як тамсям з'яўляюцца прыватныя ініцыятывы, якія складаюць, хаця і ўмоўную, але канкурэнцыю акадэмічнай сістэме навучання. Вузкія дзверы ўваходу ў прафесію трансфармуюцца ў шырокую браму.

Па-другое, гульня ў журналістыку дапамагае прыцягнуць у прафесію «свежую кроў». Прызнацца, гэтак жа было і ў маім выпадку. У восьмым класе я патрапіла ў дзіцячы лагер пад Ракавам. Сярод разнастайных забаў там быў і журналісцкі гурток. У лагеры мы лічылі сябе жыхарамі казачнай краіны Ісканіі. На ксераксе выдавалі сваю «іскансую» газету ды вечарамі паказвалі на белай сцяне «іскансія» тэленавіны.

Часта школкі ды гурткі натхняюць дзяцей на выбар прафесіі, паказваюць, што стаць «чалавекам у тэлевізары» — гэта больш рэальна, чым падавалася раней.

Па-трэцяе, даступнасць журналісцкай навукі для людзей набліжае нас адзін да аднаго. О, колькі пакут вынеслі рэпарцёры падчас вулічных апытанняў, калі спрабавалі разгаварыць мінакоў! Людзі папросту пужаюцца мікрафона, і не ў апошнюю чаргу з прычыны трапяткога стаўлення да журналістыкі ды свайго «недарэчнага» дачынення да яе. Трэба чакаць, што гульня ў студэнтаў журфака дапаможа зламаць бар'еры паміж аўдыторыяй ды СМІ.

Аднойчы беларускія журналісты задалі пытанне шведскім калегам пра тое, ці лічыцца іх прафесія прэстыжнай. Шведы здзівіліся: не, не лічыцца. Бо журналістам можа стаць кожны, было б

На дзіва, у несур'ёзным стаўленні да прафесіі ёсць і пазітыўныя эфекты.

жаданне, аднак заробкі тут сярэднія, таму пра прэстыж і гаворкі няма. Гэта пры тым, што Швецыя з'яўляецца краінай з найвышэйшым узроўнем свабоды слова і даволі развітым рынкам СМІ.

Сёння ў Беларусі кожны можа пагуляць у рэпарцёра — «сфоткаць» падзею на тэлефон ды напісаць пару сказаў, урэшце, пайсці на кароткатэрміновыя курсы. Вядома, гэта здзіўляе і нават раздражняе некаторых прафесійных журналістаў. Маўляў, падае імідж прафесіі. А што, калі гэта і ёсць цана, якую варта заплаціць за пераход на больш высокі, недасягальны для дылетантаў, узровень журналістыкі?

# «О Божа! У нас дзяўчынка!»



Сямён ПЕЧАНКО



**У часе першай вандроўкі ў Берлін у 2007 годзе мне давялося пачуць ад нямецкіх калег шмат нараканняў на складаную эканамічную сітуацыю. Вымушаныя скарачэнні выдаткаў, наступ інтэрнэту, змрочныя перспектывы папяровых выданняў. Скардзіліся ўсе — ад шэф-рэдактара бульварнай «B. Z.» да кіраўніцтва лявацкай «Die Tageszeitung». Наступная паездка надарылася ў кастрычніку гэтага года. Крызіс, думаў я, рыхтуючыся да тых самых скаргаў. Але мяне чакаў сюрпрыз.**

Многія выданні не толькі не захраслі ў пытаннях выжывання, але і пачалі выконваць не зусім уласцівыя для прэсы функцыі.

Шэф-рэдактар штотыднёвіка «Berliner Woche» Хельмут Херальд расказаў пра досвед рэдакцыі ў асвятленні сацыяльнай тэматыкі. Пры гэтым гаворка ішла не проста пра штодзённую працу журналістаў, а пра мэтанакіраваную падтрымку сацыяльнай актыўнасці ў нямецкім грамадстве, спрыянне ёй з боку СМІ.



*Шэф-рэдактар штотыднёвіка «Berliner Woche» Хельмут Херальд*

«Berliner Woche» — камерцыйнае выданне для бясплатнай раздачы, якое існуе дзякуючы рэкламе. Газета ахоплівае ўсе адміністрацыйныя раёны Берліна, друкуючы для кожнага з іх унікальны выпуск. Адпаведна, і рэклама ў кожным такім выпуску забяспечваецца мясцовымі гандлёвымі цэнтрамі, прадпрыемствамі і фірмамі. Рэшту палосаў займае мясцовая інфармацыя. Але ёсць тое, што яднае ўсе выпускі.

«Блок рэкламы якога-небудзь мясцовага гіпермаркета дае нам больш за 15 тысяч еўра, але мы можам ахвяраваць цэлай паласой дзеля гісторыі пра чалавека добрай волі ці пра прадпрыемства, якое выпускае экалагічную прадукцыю або палепшыла на карысць навакольнага асяроддзя тэхналагічны працэс», — кажа Хельмут Херальд.

Гартаю газету — на апошняй паласе акурат змешчаны такі «сацыяльны» артыкул (яго друкуюць усе варыянты газеты). «Праца для маладога

і старога» — загаловак, хутчэй, беларускай, чым берлінскай раёнкі. Сам артыкул расказвае пра фірму, якая дае магчымасць працаўладкавацца жыхарам аднаго са сталічных раёнаў, не зважаючы на іх узрост.

Шэф-рэдактар тлумачыць, што такім чынам газета стымулюе «карысную вытворчасць», а гісторыі пра людзей, якія ахвяруюць асабісты час і сродкі дзеля агульнакарысных мэтаў, адначасова служаць знакам пашаны і прыкладам для іншых.




Акрамя таго, «BW» на сваіх старонках дае пляцоўку для камунікацыі паміж валанцёрамі і спажыўцамі іх паслуг праз сістэму бясплатных абвестак.

Хельмут Херальд перакананы, што для СМІ ў цэлым і для яго выдання ў прыватнасці тэма грамадзянскай актыўнасці — перспектыўная. Папяровыя і электронныя выданні могуць і ўжо робяцца платформамі для самых розных дабрачынных ініцыятыў. «Мы не выкручваемся з загалоўкамі і нейкімі асаблівымі прыёмамі падачы такіх матэрыялаў. Тэма ў кожным выпадку адыгрывае ролю, такі артыкул усё адно прачытаюць», — кажа Хельмут Херальд.

Слухаючы рэдактара «BW», задумваешся над сапраўднымі матывамі выдання. Нават з'яўляецца думка пра банальную эксплуатацыю папулярнай і насамрэч перспектыўнай тэмы. Дакладней, цэлага комплексу тэм. У папулярнасці сярод немцаў пытанняў здаровага харчавання, напрыклад, сумнявацца не прыходзіцца. Варта пагартаць меню шараговага берлінскага рэстарана на Аляксандарплац і пабачыць акрамя інфармацыі пра «чаявыя» звесткі пра ўтрыманне ў той ці іншай страве кансервантаў, фарбавальнікаў і харчовых дадаткаў.

Нямецкіх пенсіянераў жыва цікавіць пытанне, якім чынам як мага даўжэй заставацца ў звыклых жыццёвых умовах. Інфармацыя пра валанцёра, які прынясе пакупкі з крамы ці дапаможа арганізаваць прагулку, знойдзе немалую колькасць чытачоў. А гэта наведнікі гіпермаркетаў, цырульняў, кліенты стаматолагаў і г. д., якія, у сваю чаргу, размяшчаюць у газеце рэкламу.

Ды што там «Berliner Woche», якая лічыць сябе сур'ёзным выданнем, калі нават «жоўтая» «B. Z.» заснавала рубрыку «Героі Берліна», пад якую рэгулярна адводзіць цэлы разварот газеты.

З іншага боку, ці ёсць у гэтым нешта кепскае? Тым больш што часта публікацыя ў газеце для чалавека добрай волі з'яўляецца ці не адзінай падзякай за яго працу на агульную карысць.

У глабальным сэнсе досвед нямецкіх СМІ, якія не проста інфармуюць чытачоў пра становішча ў грамадстве, але і намагаюцца аб'ядноўваць людзей для супольнага вырашэння праблем, безумоўна, карысны і для Беларусі.

Наступны адрас — рэдакцыя лявацкай газеты «Die Tageszeitung». Гэта яскравы прыклад надзвычай нестандартных дачыненняў асобнага выдання са сваімі чытачамі і грамадствам у цэлым.

«Сярод нашых падпісчыкаў і ахвярадаўцаў — самыя шырокія слаі грамадства: палітыкі — ад левых да правых, навукоўцы і літаратары, прадстаўнікі бізнесу, простыя людзі. І мы аднолькава ўсіх іх крытыкуем», — расказвае супрацоўніца нямецкай газеты «Die Tageszeitung» Коні Геленбэк. «Крытыкуем» — вельмі мяккая і даволі абцякальная фармулёўка, хоць і дакладная.

У якасці прыкладу такога незвычайнага сімбіёзу дачыненняў паміж газетаю і грамадствам проста неабходна расказаць гісторыю з'яўлення на фасадзе будынка, дзе месціцца рэдакцыя «Taz», мякка кажучы, пікантнай інсталяцыі. Аголены мужчына трымае ў руках гіганцкі дзетародны орган, які ўзвышаецца да апошняга паверха рэдакцыі. Мужчына вельмі нагадвае рэдактара таблоіда «Bild» Кая Дзікмана. У 2002 годзе газета «Taz» апублікавала фельетон пра няўдалую аперацыю Дзікмана па павелічэнні чэлеса. Той падаў у суд, але прайграў яго. Гэта быў трыумф «Taz». Газета з накладам меншым за 60 000 і рэдакцыяй у 250 чалавек адолела кіраўніка таблоіда з накладам большым за 3 мільёны!

Праз 7 гадоў нямецкі скульптар Петэр Ленк прапанаваў рэдакцыі лявацкай газеты змясціць на фасадзе тую самую інсталяцыю. Меркаванні рэдакцыі падзяліліся, але вырашальным стала прапанова Дзікмана, які даведаўся пра планы Ленка, выкупіць скульптуру. Так у верасні 2009 года ў Берліне з'явіўся яшчэ адзін надзвычай папулярны турыстычны аб'ект.


Volksblatt
Kalenderwoche 41 | Berlin engagiert

# Arbeit für Jung und Alt

Die Menzel Elektromotoren GmbH kümmert sich um ein gutes Betriebsklima

Junior-Chef Mathis Menzel (links) ist stolz darauf, dass Jung und Alt so gut miteinander arbeiten. Hartmut Lenke (rechts) gibt seine Erfahrungen an Juliane Poetke weiter. Foto: KT

Engagierte Unternehmen
Wir sind dabei

*Загаловак «Праца для маладога і старога» ў газеце «Berliner Woche» нагадвае назву артыкула ў звычайнай беларускай раёнцы*




*Інсталяцыя на фасадзе рэдакцыі газеты ў Берліне*

А цяпер галоўнае. Кай Дзікман воляй лёсу мае працоўны кабінет акурат насупраць той самай інсталяцыі — будынкі рэдакцый размешчаныя побач. І ён не толькі вымушаны глядзець на яе штодзень — закляты вораг газеты «Taz» з'яўляецца... адным з яе фундатараў. Справа ў тым, што з моманту заснавання ў 1977 годзе «Die Tageszeitung» не была акупальнай. Гэта, хутчэй, палітычны і культурніцкі праект, які падтрымалі самыя розныя пласты нямецкага грамадства. Да падзення Берлінскага мура ўсе супрацоўнікі газеты атрымлівалі абсалютна аднолькавы заробак, не было кіроўных пасадаў, хоць супрацоўнікі выконвалі розныя па аб'ёме і складанасці задачы. У пачатку 90-х газета апынулася на мяжы знікнення і ў чарговы раз звярнулася да сваіх чытачоў па дапамогу. Быў заснаваны кааператыў, яго чальцы на альтруістычных асновах пералічваюць у скарбонку газеты аднаразовы пай. На сёння сума яго складае 500 еўра, максімальная сума паёў — 100 тысяч. Пры гэтым кожны чалавек мае адзін голас, незалежна ад памеру ўнёску. На рэдакцыйную палітыку ўплываюць толькі сябры рэдакцыі, з ліку іншых пайшчыкаў абіраецца назіральная рада.

Кай Дзікман — адзін з пайшчыкаў. Свой учынак рэдактар найбуйнейшага таблоіда Германіі тлумачыць важнасцю «Taz» для грамадства і неабходнасцю захавання разнастайнасці СМІ ў цэлым. На яго думку, без падобнай газеты рынак нацыянальнай прэсы будзе непаўнавартасным, а гэта стварае перадумовы для ўзнікнення пагрозаў для свабоды слова і дэмакратыі.

Трэба адзначыць, што «Taz» карыстаецца такім унікальным даверам даволі дасціпна. І хоць прыклад з аздабленнем фасада пераканаўча пра гэта сведчыць, не ўтрымаюся ад некалькіх прыкладаў, звязаных непасрэдна з газетай. З'яўленне першай жанчыны-канцлера газета адзначыла першай паласой з фотаздымкам Меркель у дзяцінстве і жыццесцвярджальным подпісам: «Дзяўчынка!» Абранне немца Ёзефа Ратцынгера Папам Рымскім «Taz» вітала чорнай перадавіцай з подпісам: «О Божа!», а яго сыход — здымкам пантофляў пантыфіка і словамі: «Бог сказаў дзякуй».

І ўсё ж несправядліва будзе сказаць, што газета кіруецца адно прынцыпам «вы нам плаціце, а мы вас крытыкуем». У 2008 годзе «Taz» заснавала фонд «Пантэра», закліканы падтрымліваць і стымуляваць сацыяльную актыўнасць. Коні Геленбэк з'яўляецца кіраўніком управы фонду. Па яе словах, фонд дзейнічае ў некалькіх кірунках. Гэта і прэмія, якую ўручаюць штогод двум асобам або арганізацыям (аднаго пераможцу вызначае рэдакцыя, другога — чытачы выдання), а таксама навучальныя семінары для журналістаў, у тым ліку і замежных, у берлінскай рэдакцыі «Taz». У беларускіх калегаў таксама ёсць такая магчымасць. Акрамя базавых навыкаў рэпарцёрскай працы тут можна будзе атрымаць уяўленне пра сацыяльную мадэль Германіі, ролю і месца ў ёй прэсы.

*Артыкул падрыхтаваны пры падтрымцы Школы журналістыкі Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Іаханеса Рау.*



**Павел Севярынец — наш калега, сябра БАЖ, палітык і публіцыст — адбыў чарговы, амаль трохгадовы, тэрмін прымусовага «перавыхавання» і 19 кастрычніка апынуўся, нарэшце, у Мінску.**

# Севярынец на волі!

На сталічным вакзале Паўла сустракалі не толькі сябры з кветкамі, але і супрацоўнікі ГУУС Мінгарвыканкама. Міліцыянтам вельмі не падабалася рэпарцёрская ўвага да нядаўняга «хіміка». Яны, як маглі, перашкаджалі працаваць журналістам, а дзясятак рэпарцёраў увогуле затрымалі.

Таму інтэрв'ю на пероне атрымалася імклівым і дынамічным — Павел скіроўваўся ў міліцэйскі пастарунак вызваляць таварышаў па журналісцкім цэху.

***— Віншуем з вызваленнем, дарагі Павел! Першае пытанне да Вас — ці вылучалася падчас адсідкі сярод іншых падтрымка з боку прафесійнай журналісцкай супольнасці?***

— Безумоўна, вылучалася! Журналісцкая ўвага — гэта была тая гарантыя, якая дазваляла падчас «хіміі» адчуваць сябе ў большай ці меншай бяспецы. Як толькі адміністрацыя спецкамендатуры пачынала які-небудзь ціск, я адразу ж браў тэлефон і звязваўся з журналістамі. Калі інфармацыя пра той ці іншы выпадак з'яўлялася ў інтэрнэце, — адразу ж ціск спыняўся.

У адрозненне ад тых, хто сядзіць у турме, я, знаходзячыся на «хіміі», меў магчымасць аператыўна звязацца з рэпарцёрамі — і гэта вельмі дапамагала. Варта адзначыць, што цікавасць журналістаў дапамагала не толькі ў выпадках, звязаных са мной асабіста, але і ў вырашэнні праблем як іншых асуджаных, так і мясцовых актывістаў.

Дзякуючы ўвазе журналістаў, удалося не толькі дамагчыся для мяне магчымасці наведваць царкву, але і, напрыклад, вырашыць пытанне з мясцовай алкагольнай крамай, размешчанай насупраць школы. Як толькі інфармацыя пра гэтую сітуацыю з'явілася ў прэсе, алкагольны аддзел у краме хуценька зачынілі. А старшыня Пружанскага райвыканкама нават аб'явіў аб правядзенні антыалкагольнай кампаніі ва ўсім раёне!

Таму я вельмі ўдзячны ўсім журналістам, якія надзвычай аператыўна паведамлялі пра тыя ці іншыя выпадкі, звязаныя са мной.

***— Ваша кніга «Беларуская глыбіня», напісаная падчас зняволення, складаецца з аўтарскіх эсэ ў газеце «Наша Ніва». Як узнікла ідэя напісання гэтых тэкстаў?***

— Адразу, як толькі месцам адбывання пакарання мне прызначылі вёску Куплін, я забраўся ў

Google, паглядзеў, што гэта за край і якая ягоная гісторыя. І тады мне стала зразумела, што першыя 15–20 эсэ практычна ўжо ляжаць на стале: пра гэтыя мясціны, людзей, якія тут нарадзіліся.

І ў першы ж свой прыезд да мяне галоўны рэдактар «Нашай Нівы» папрасіў што-небудзь пісаць у газету з беларускай глыбінкі. Мы дамовіліся, што гэта і будуць мае эсэ вось такога кшталту. Таму яшчэ раз дзякуй Андрэю Дынько і «Нашай Ніве».

***— У спецінтэрнаце, напэўна, не было мажлівасці карыстацца інтэрнэтам. Але Вашыя эсэ з'яўляліся рэгулярна. Працавалі «паштовыя галубы»?***

— Насамрэч я меў магчымасць карыстацца сякім-такім інтэрнэтам на мабільным тэлефоне. Да майго прыезду ў спецкамендатуры нават былі дазволеныя ноўтбукі, але з маім з'яўленнем адміністрацыя загадала здаць іх пад роспіс. Матывацыя была такая: «Каб спецкамендатура не ператваралася ў пульт кіравання апазіцыяй». Таму сапраўды кожны тыдзень я сядаў і пісаў на паперы свае эсэ ды адпраўляў звычайнай поштай у Мінск.

***— Ці супрацоўнічалі Вы ў гэты час яшчэ з якімі-небудзь медыя?***

— Адначасова я працаваў своеасаблівым карэспандэнтам «Радыё Рацыя». Вёска Куплін і наогул Пружаншчына трапляе ў абсяг FM-вяшчання «РР», таму на кожную сераду я рыхтаваў караценькія рэпартажы з Берасцейшчыны. У адрозненне ад эсэ ў «Нашай Ніве», гэта былі больш жывыя, больш жыццёвыя нататкі.







***— На Ваш погляд, ці змяніўся медыярынак Беларусі за тыя гады, якія Вы знаходзіліся на «хіміі»?***

— Упэўнены, што змяніўся. На мой погляд, нават сярод незалежных СМІ за два гады стала больш канкурэнцыі. Ад гэтага, безумоўна, узрасла і якасць журналістыкі. Але самыя галоўныя змены за гэтыя два гады адбыліся менавіта дзякуючы інтэрнэту. Электронныя СМІ сёння цалкам вядуць рэй у беларускай журналістыцы, інтэрнэт-відэатрансляцыі падзеяў сталі звычайнымі рэчамі, не кажучы ўжо пра мультымедыйны кантэнт.

***— Па выхадзе Вас, пэўна, зацягнуць партыйная праца і палітычныя праблемы. Журналістыка, публіцыстыка адыдуць убок?***

— Не, зусім не. Журналістыка, публіцыстыка будуць па-ранейшаму займаць адно з галоўных месцаў у маёй працы. Напрыклад, бліжэйшым часам я маю намер узгадаць і выдаць усе свае турэмныя нататкі, пачынаючы яшчэ з 1996 года.

*Гутарыў Барыс Гарэцкі,*
*фота Сяргея Балая*

# Паляванне працягваецца



*Алена СЦЯПАНАВА*

**Прычым круглы год. Без «ліцэнзіі», бо яе замяняе да болю знаёмая каманда «фас!». Паводле маніторынгу БАЖ, на незалежных журналістаў палююць у самых розных кутках Сінявокай. Стабільна і метадычна. І Віцебск, які «стваральнікі» найноўшай гісторыі любяць называць «культурным цэнтрам краіны», не з'яўляецца выключэннем.**




Кастрычніцкі раённы суд аспрэчыў міліцэйскія дакументы, сабраныя па маёй адміністрацыйнай справе пра «супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі». Хаця быў шанц стаць першай у Беларусі журналісткай, якую б асудзілі за такое «правапарушэнне». Абышлося ўсяго толькі папярэджаннем пракуратуры пра незаконную журналісцкую дзейнасць. Але такіх папярэджанняў сёння дзясяткі. І гэты гумарыстычна-песімістычны аповед — пра ўсіх нас, хто працуе без акрэдытацыі, бо проста не можа яе атрымаць.

...Калі не ўспрымаць захады міліцыі супраць віцебскіх незалежных журналістаў з пэўнай доляй гумару, то можна кінуцца ў адчай, доўгатэрміновую дэпрэсію ці ўвогуле развітацца з улюбёнай справай. Пакуль ты яшчэ на волі і рэбры цэлыя, а твой фотаапарат не валяецца раструшчаным пад нагамі «байцоў» сілавых структур. Бо ўжо некалькі гадоў, як незалежных журналістаў супрацоўнікі віцебскай міліцыі ўспрымаюць не інакш як «замаскаваных ворагаў». Хаця мы ні ад каго ніколі не хаваемся, калі асвятляем розныя грамадзянскія акцыі, калі размаўляем з людзьмі пра іхныя праблемы, фатаграфуем ці здымаем відэа на вуліцах ды кірмашах, каля судоў і выканкамаў. Менавіта тут вельмі часта і нечакана, як Піліп з канапель, выскокваюць і засланяюць аб'ектыў шырокія спіны з надпісам «Міліцыя». Потым уладальнікі шэрых куртак патрабуюць усё знятае знішчыць ці сцерці.

## «Дэмакратыя» каванага абцаса

25 сакавіка 2011 года на вачах у дзясяткаў гараджан супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС валаклі па асфальце відэааператара Уладзіслава Стараверава. Хлопец хацеў зняць людзей на плошчы Свабоды, якія збіраліся, каб адзначыць Дзень Волі. Як толькі ён дастаў тэлекамеру, міліцыянты заламалі яму рукі і пацягнулі ў машыну. Да ўсяго яму абвясцілі, што затрыманы ён па падазрэнні... у педафіліі! Зразумела, што гэтыя падазрэнні з хлопца былі знятыя праз некалькі гадзін, калі людзі з плошчы разышліся. Аднак затрыманне з ліку тых, якія журналісты даўно называюць «брутальнымі», паўтарылася роўна праз месяц.



*Уладзіслаў Стараверaў*

На ўгодкі Чарнобыльскай трагедыі невялікая група віцяблян сабралася на супольную малітву ля крыжа на Успенскай горцы. Але нават гэтага Уладзіславу Старавераву зняць не далі: супрацоўнікі таго ж самага Кастрычніцкага РАУС паваліліі яго на зямлю, нехта ўдарыў нагой па рэбрах... «Ахоўнікаў правапарадку» нікольki не бянтэжыла, што гвалт адбываецца амаль што ля ганка Успенскага сабора, што зусім побач знаходзяцца святары і вернікі... Толькі дзякуючы заступніцтву мінакоў журналісту дазволілі падняцца і ў пастарунак павялі пад канвоем. У аддзяленні склалі пратакол: Уладзіслава Старавера абвінавацілі ў дробным хуліганстве і непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі.

Неўзабаве Уладзіслаў Стараверaў з'ехаў з Віцебска. Затрыманні ўвесну 2011 года былі для яго далёка не першымі. Ён ніколі не скардзіўся, і толькі потым мы даведаліся, што напамінам пра стасункі з міліцыяй былі для яго не толькі сінякі на руках, з якіх выдзіралі камеру, але і разрыў вушной барабаннай перапонкі.

Чамусьці віцебская міліцыя асабліва старанна палюе на журналістаў з відэакамерамі. Мабыць, тэлебачанне не любяць? Бо тым, хто трымае ў руках фотаапарат ці дыктафон, працаваць крыху прасцей. З такім абсталяваннем можна таксама патрапіць у міліцэйскі пастарунак, але, прынамсі, нікога так жорстка не збіваюць, як незалежных тэлежурналістаў.

## Віцебскае «ноу-хау»

Апошнім часам нас перасталі пускаць у будынкі судоў з фотаапаратамі, а з дыктафонамі і ноўтбукамі — на судовыя пасяджэнні. Ды што там — не заўжды пускалі нават з мабільнымі тэлефонамі. Кажуць: «Зараз такая тэхніка, што вы з шарыкавай асадкі ўсё ў інтэрнэт адправіць можаце». Аднойчы ўвогуле здарылася нечаканае.

...У сціплы будынак суда Першамайскага раёна, калі там разглядалася справа апазіцыйнага актывіста Сяргея Каваленкі, якому «свяціла» адпраўка ў калонію, супрацоўнікі міліцыі прыцягнулі браму-металашукальнік! Уявіце сітуацыю: зіма, на кожным — цёплая куртка ці паліто, а вас прымушаюць распранацца і нават зняць абутак, пераглядаюць сумкі, шукаюць ноўтбукі, фотаапараты, дыктафоны. Калі металашукальнік піскне, працэдура працягваецца — рыхтуйся да асабістага дагляду. А час ідзе, да пасяджэння некалькі хвілінаў, і вось я стаю распранутая-разутая ды ліхаманкава думаю: калі запатрабаваць, каб мяне абшуквала жанчына, як напісана ў заканадаўстве, то дакладна спазнюся.




*Затрыманне Уладзіслава Старaверава. Фота Сяргея Серабро*

Бо жанчын-міліцыянтаў у полі зроку няма, а супрацоўніцу пры пагонах будуць доўга выклікаць па рацыі… Здаровыя ж дзецюкі ў форме назіраюць, як здзекуюцца з журналістаў, ды непрыхавана рагочуць. І як тут стрываць, калі нехта з іх пачне цябе абмацваць?

Рашэнне ў такой сітуацыі прыйшло імгненна. Заяўляю: «Глядзіце, калі хочаце. У мяне ўсё адно нічога забароненага няма», — і пачынаю рашуча расшпільваць верхнія гузікі на кашулі. Супрацоўнікі міліцыі адводзяць вочы, бянтэжацца і кажуць: «Праходзьце». Але судовая зала ўжо зачыненая, журналістам гавораць, што для іх месцаў няма.

Гэта яшчэ адно міліцэйскае «ноу-хау», якое цяпер практыкуюць не толькі ў Віцебску. Каб не пусціць на пасяджэнне прэсу, судовую залу запаўняюць супрацоўнікамі міліцыі, якіх заводзяць з «чорнага хода». Я не ведаю, ці вызваляюць іх ад асноўнай працы, ці адрываюць ад канапы ды тэлевізара ў выхадны дзень, але каго тут толькі не ўбачыш! Вось на драўляных лавах у «баявым» парадку сядзяць супрацоўнікі патрульна-паставой службы, крыху далей — высокія хлопцы-амапаўцы, а побач — невысокія, у цывільных, але падобных адна да адной чорных куртачках. Месца іхнай службы не вызначыш, як невядома і тое, адкуль паміж «праваахоўнікамі» іншым разам з’яўляюцца «праваахоўніцы». Тут ужо пачынаюцца заляцанні, бо сядзець на судзе над грамадзянскімі актывістамі міліцыянтам сумна. Нехта засяроджана жуе гумку, нехта гуляецца з мабільным тэлефонам — штурхае суседа ў бок, паказвае нейкую смешную фотку, і абодва напаўголаса рагочуць... Часам чамусьці не набіралася неабходная колькасць тых, каму «належыць» заняць усе лавы. Яны стараюцца: разваліўшыся, удвух займаюць столькі месца, што хапіла б на чатыры чалавекі. І ўсё ж калі краёчак вольны, то аднаго-двух журналістаў могуць упусціць. Калі, вядома, паспееш праскочыць міма неабдымнага супрацоўніка, які вартуе дзверы. І за гэтыя «тэатральныя» масоўкі дужыя дзецюкі, на якіх, як кажуць у народзе, араць можна, атрымоўваюць заработную плату. Між іншым, з бюджэту, які папаўняецца ў тым ліку і за кошт нашых з вамі падаткаў.

Нечага такога я чакала і на «сваім» судзе. Меркавала, што буду патрабаваць пусціць у залу калег, каб яны пачулі і потым распавялі грамадству пра «доказы» маёй «незаконнай журналісцкай працы без акрэдытацыі», сабраныя ў Кастрычніцкім РАУС. Былі, напрыклад, у матэрыялах «маёй» справы міліцэйскія рапарты пра тое, што я бывала на судах, што ў калідоры камусьці нешта дыктавала па тэлефоне, а ў час пасяджэнняў «рабіла запісы ў працоўным нататніку». Не ў абы-якім, а ў «працоўным», як зазначылі сведкі-міліцыянты. У дадатак мне прыпісалі аўтарства некалькіх чужых тэкстаў на Радыё Свабода і высветлілі, што ўсяго адна Алена Вячаславаўна Сцяпанава пражывае ў Віцебску. І ўсё гэта таксама нібыта з’яўлялася пацвярджэннем парушэння мною заканадаўства аб СМІ.

Але такіх «доказаў» суд не прыняў. Суддзя Іна Грабоўская адправіла на дапрацоўку ў Кастрычніцкае РАУС маю справу, якая дзесьці ляжыць там дагэтуль. А я так і не стала скандальнай «медыязоркай», то бок першай у Беларусі журналісткай, асуджанай за працу без акрэдытацыі…

## «Засакрэчаная» нікчэмнасць

…Гады два таму адзін мой калега распавядаў пра гутарку з міліцэйскім начальнікам «сярэдняга звяна», тагачасным супрацоўнікам аднаго з райаддзелаў. Той пагрозліва сказаў: «Гэта толькі дзякуючы мне ты яшчэ не маеш афіцыйнага папярэджання за журналісцкую працу без акрэдытацыі. Мы яшчэ выправім гэтую памылку!» Аднак чамусьці менавіта мне давялося атрымаць першае папярэджанне Віцебскай



*Уладзімір Жыгулоў*




пракуратуры. Дагэтуль смешна, калі згадаю, за што мне яго далі. За тое, што на працягу 2012 года я нібыта «супрацоўнічала з Чэшскай службай Радыё Свабода». Закрытай, між іншым, яшчэ ў 2012 годзе! Ужо на гэтай падставе можна было б скасаваць пракурорскае папярэджанне, але маю скаргу не задаволілі. З пракуратуры прыйшла адмова, якую можна сцісла перадаць у трох словах: маўляў, наша справа — папярэдзіць.

Сёлета ў жніўні другое папярэджанне ад Віцебскай абласной пракуратуры атрымаў 74-гадовы журналіст-фрылансер Уладзімір Жыгулоў. Яму прыгадалі артыкулы ў газеце «Витебский курьер», зарэгістраванай у суседнім Смаленску, на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. Не першы год выходзіць гэта газета, не адзін аўтар з ёй супрацоўнічае, але Уладзімір Жыгулоў асвятляў гісторыю ўрача Ігара Пастнова, якога прымусам адправілі на псіхіятрычнае лячэнне пасля чарговай крытыкі віцебскіх медустановаў. Гісторыя набыла шырокі грамадскі розгалас — і вось вам чарговы парушальнік заканадаўства аб СМІ, «схаваны вораг», журналіст-пенсіянер, які толькі-толькі ачуняў пасля інсульту.

Вось так, з пэўнай доляй іроніі і сарказму, можна весела і доўга распавядаць пра «суровыя будні» віцебскай незалежнай журналісцкай супольнасці. Я ж казала: без гумару тут — ніяк, бо драматычных сітуацый у нашым жыцці і без таго хапае. Але насамрэч вясёлага ў працы журналіста, які працуе не ў дзяржаўным выданні, зусім небагата.

Патрабаванне ад нас «штатнай прыналежнасці» або акрэдытацыі — гэта не што іншае, як забарона на прафесію. Я маю на ўвазе акрэдытацыю ў самым шырокім сэнсе. Гэта і акрэдытацыя пры МЗС, калі гаворка ідзе пра ваша супрацоўніцтва з замежным сродкам масавай інфармацыі, і акрэдытацыя пры звычайным «савецкім» райвыканкаме, якую ў вас патрабуюць, калі тэлефануеце ў дзяржустанову, каб запытацца пра распаўсюд свіной чумы ці гектары кінутых на полі буракоў у суседнім раёне.

Па вялікім рахунку, усе гэтыя высілкі — адбіранне камер і фотаапаратаў, захады, накіраваныя на тое, каб было немагчыма патрапіць на суд над грамадзянскімі актывістамі ці даведацца пра колькасць тых самых падмерзлых у полі буракоў, — гэта не што іншае, як спроба чыноўнікаў «засакрэціць» інфармацыю. З адной толькі мэтай — схаваць хібы і недапрацоўкі, ляноту, абыякавасць і няздольнасць выконваць свае прафесійныя абавязкі. Нават і ад каго — рытарычнае пытанне. Найперш ад дзяржаўных структур, якія ажыццяўляюць кантроль, ды ад Адміністрацыі прэзідэнта. Бо за безгаспадарчасць «жэстачайшэ» пакараюць. Вось эпідэмія сакрэтнасці і ахутала, горш за свіную чуму, праўладную вертыкаль раённага маштабу.

Аднак шыла ў мяшку не схаваеш. Тым больш калі бурна развіваецца інтэрнэт, блогерства, сацыяльныя сеткі. Зараз амаль што кожны «сам сабе журналіст», і нам бы толькі паспець за ўсюдыіснымі аматарамі, якія выкрываюць сур'ёзныя праблемы ў сваіх далёка не прафесійных допісах!

І калі чуеш, што кагосьці з калегаў вінавацяць у парушэнні заканадаўства аб СМІ (чытай, за распаўсюд альтэрнатыўнай інфармацыі), так і хочацца сказаць: «Азнаёмцеся з адпаведным законам. Я — не СМІ, я — журналіст. Я — прыватная асоба з пэўным родам заняткаў, які хтосьці лічыць шкодным, хтосьці — небяспечным, а многія — карысным». Асабіста я лічу справу, якой займаюся, неабходнай і патрэбнай. Для грамадства і для людзей, якія маюць канстытуцыйнае права на атрыманне і распаўсюд праўдзівай і ўсебаковай інфармацыі.

*Фота Сяргея Серабро і з архіва аўтара*

# Как у нас в саду зеленом…



*Владимир ДЗЮБА*

Пришла на память частушка, которую моему знакомому когда-то пела его бабушка. И крутится в голове, крутится, смешная. Полностью «пропою» ее чуть погодя. Хотя в 1930-е гг. за такие крамольные припевки сажали надолго и «без права переписки».

## Еще вчера

…Работаю в архиве НКВД г. Томска, передо мной объемные стеллажи и тысячи картонных папок с делами «врагов народа». Сюда, в ТомЛАГ, в 20-е, 30-е и 40-е годы высылали белорусов, литовцев, поляков, эстонцев. Часто вместе с семьями. В пожелтевших от времени папках такие же пожелтевшие фотографии — учителей, священников, литераторов, рабочих, колхозников, военных, госслужащих, спортсменов, врачей…

Это давит на психику — ведь на каждого был написан донос.

Как советским идеологам и правящей коммунистической «элите» за короткое время удалось превратить огромную страну в государство сексотов, стукачей? И разделить страну на два социальных лагеря: тех, кто следит, арестовывает, истязает, сажает и охраняет; и тех, кого преследуют, репрессируют, сажают, а потом сразу или по истечении нескольких лет расстреливают. Управляла процессом небольшая номенклатурная советско-партийная верхушка. Эти смутные и страшные времена пережили наши деды и родители. Вместе с пожарами Великой Отечественной войны, после которой, кстати, по стране-победительнице прокатилась новая волна политических репрессий. Людей отправляли в лагеря «за саботаж», «за выпуск некачественной продукции», повидавших Европу недавних фронтовиков — «за восхваление иностранной техники», за критику сталинского режима. И снова доносы, доносы, доносы…

— Вы разрешаете знакомиться с делами репрессированных их родным и близким? Они могут узнать имена тех, кто доносил?

Я включил «репортер», мой собеседник — майор КГБ Владимир Уйманов. Это он помогает мне находить в архиве дела репрессированных уроженцев Беларуси.

— Да, разрешаем без проблем. И копии фотографий своих родных люди делают. Вот только страницы с доносами перед просмотром изымаем. Были случаи, когда люди мстили уже престарелым доносчикам, устраивали самосуд. Страницы с приговором тоже изымаем, где фамилии и подписи судей, то есть членов «двоек» и «троек».

— Вы пересмотрели тысячи дел, которые связаны с пресловутой 58-й политической статьей УК того времени. Что впечатлило больше всего?

— То, что жизнь человека ничего не стоила. Не разбираясь, исходя из содержания доноса, давали большие сроки, приговаривали к расстрелу. Время было такое, работала система…

— Но ведь эту кровавую систему создали люди! Из зависти, из чувства страха, из-за понимания своей ничтожности, из-за желания выслужиться и сохранить собственную шкуру…

Здесь мы с майором сцепились, разговаривая эмоционально, но искренне. У каждого из нас была своя правда. Я настаивал на том, что имена доносчиков и судей-палачей нужно придать огласке. Чтобы не вернулось, как пел Владимир Высоцкий, «наследие мрачных времен». Я говорил о том, что в городах и весях бывшего Союза необходимо создать мемориалы памяти жертв политических репрессий. И тут же, поодаль, поставить камни позора — с именами



*Аляксей БЕЛЫ*

# На Салавецкіх астравах — дажджы…

**Радкі з песні Валянціна Віхарава прыгадаў у чарговы раз, калі мы з жонкай Аленай напрыканцы жніўня нарэшце выправіліся на Салаўкі. Сапраўды, надвор'е ў гэтых мясцінах пад восень не заўсёды цешыць, тым больш не спрыяе вандроўкам: пачынаюцца штормы, налятае вецер з дажджом, і прыехаць на астравы ці, наадварот, выбрацца адтуль на мацярык не заўсёды магчыма. Але… Калі мы праехалі цягніком амаль усю Карэлію і патрапілі на Вялікі Салавецкі востраў, жнівеньскае надвор'е было цудоўным: шчодра прыгравала сонца, на моры была лёгкая рабізна. Толькі на трэці дзень нашага знаходжання на астравах прайшоў невялікі дождджык, і на наступныя суткі абвясцілі штармавое папярэджанне.**



## Здзейсніць задуманае

У дарогу мы збіраліся нядоўга. Адзінае, што азмрочвала настрой, — не было квіткоў на прычапны вагон Баранавічы — Мурманск. Атрымалася так, што білеты на адваротны шлях мы ўжо мелі, а туды — яшчэ не. Урэшце вырашылі ехаць да Санкт-Пецярбурга, а там зрабіць перасадку, бо не спадзяваліся, што ў апошнія суткі атрымаецца ўзяць білеты на прамы маршрут.

Мара наведаць Салавецкія астравы была ў нас даўно. Алена хацела пабачыць тыя мясціны, куды ў час савецкай калектывізацыі незваротна саслалі яе блізкіх: прадзеда Данілу і аднаго з яго сыноў — Усевалада, брата яе дзеда Вячаслава. Да гэтага дадаўся і яе прафесійны інтарэс як даследчыка літаратуры 1920–1930-х гадоў. Мне ж хацелася вярнуцца ў сваё юнацтва: 43 гады таму, у 1970-м, я ў час плавальнай практыкі тройчы патрапляў на Вялікі Салавецкі востраў за штурвалам парахода, пахадзіў з сябрамі-курсантамі ўздоўж таўшчэзных сцен манастыра і нават купаўся ў Святым возеры…

Нашым спадарожнікам у купэ да Піцера аказаўся малады хлопец з-пад Віцебска Сяргей, які разам з бацькам працуе аж у Магадане, на заводзе, дзе вырабляюць выбуховыя рэчывы. Ён ехаў у Піцер на курсы. Сяргей расказаў, што ў Магадан адзін за адным прыехалі ўжо 12 яго землякоў. Жытлом іх забяспечыла прадпрыемства, у пакоі ёсць інтэрнэт, тэлевізар. Вахта цягнецца пяць месяцаў, і дома яны бываюць рэдка. Авіябілеты (18 тыс. расійскіх рублёў за пералёт) аплачвае фірма.

У Санкт-Пецярбургу да адпраўкі нашага цягніка заставалася пяць гадзін. Таму на метро, якое адчыняецца ў 5.40, прыехалі на Ладажскі вакзал. Праезд у метро каштуе 28 рублёў — амаль долар (дарэчы, амаль столькі трэба заплаціць і за наведванне месца агульнага карыстання — 25). А дзявятай раніцы на цягніку «Арктыка» (Масква — Мурманск) рушылі да пункта прызначэння — станцыі Кемь. Нязвыкла было прад'яўляць расійскай праваднiцы не толькі білеты, але і пашпарты. Яшчэ заўважылі, што перад кожным чыгуначным пераездам у Расіі акурат насупраць шлагбаума ўздымаецца дадатковы металічны заслон вышынёй з паўметра. Прыйшлі да высновы, што там не пераводзяцца «джыгіты», для якіх чырвоны сігнал святлафора — не перашкода…

Карэлія вельмі ўразіла сваёй прыродай. Лясы, шматлікія азёры, чыстыя рачулкі… Праўда, лясныя багацці выкарыстоўваюцца не па-гаспадарску. Уздоўж чыгункі ляжаць і дагніваюць тысячы і тысячы кубаметраў некалі будаўнічага лесу, між купкамі бяроз валяюцца зрэзаныя ў спешцы драўляныя слупы альбо рэшткі бетонных апор. На лесаскладах шмат старой тэхнікі: КрАЗы, ЗІЛы з маніпулятарамі, трактары… Да цягнікоў на станцыях выходзяць мясцовыя жыхары, прапануюць вэнджаную рыбу, ягады, піва, піражкі хатняй выпечкі, сушаныя грыбы… Кошты на ўсё даволі высокія, разлічаныя не на нашы заробкі. Нават сувенірныя магніты ў прывакзальных шапіках у тры разы даражэйшыя, чым у Піцеры.

У Кемь прыбылі ўначы. Да Рабочаастроўска, адкуль ранішнія цеплаходы адыходзяць на Салавецкія астравы, нас давёз за 250 рублёў прыватнік. Там, у гатэлі «Прычал», мы загадзя забранавалі нумар. Там жа набылі квіткі на цеплаход «Васіль Касякоў» (на востраў і назад).



Фота Vitold Muratov, wikimedia.org

Уранні мы былі на прычале. Я пазнаёміўся з капітанам цеплахода Сяргеем Нячаевым, ён з архангельскіх. Бацька яго быў паморам, мараходку скончылі і сыны. На Салаўкі Сяргей ходзіць толькі ў сезон — з чэрвеня па жнівень. Астатні час як капітан далёкага плавання працуе з галандцамі.



*У рубцы з капітанам цеплахода Сяргеем Нячаевым*

## Вось яны, Салаўкі!

Надвор'е спрыяла нашай вандроўцы. Над Белым морам свяціла сонца. Адлегласць ад мацерыка да Салавецкіх астравоў, па сухапутных мерках, — 60 кіламетраў. Гэта дзве гадзіны ходу. Палубу ахутаў водар кавы і печыва. Не паспеў я папярэдзіць Алену, як з неба абрынулася адна з чаек, што звыкла суправаджалі цеплаход, выхапіла круасан з яе рук, праглынула і нахабна зарагатала... Калі мінулі некалькі дробных астраўкоў, нарэшце ўбачылі на гарызонце салавецкі Крэмль з яго вежамі і таўшчэзнымі каменнымі сценамі.



*Салавецкія муры*

І цяпер гэтае збудаванне ўражвае сваёй веліччу, прыгажосцю, завершанасцю архітэктурнай кампазіцыі. Вякі не кранулі манастыр-крэпасць, сцены якога, выкладзеныя з каменю, у некаторых месцах да шасці метраў у таўшчыню. Часам здаецца, што збудаванне гэта — грандыёзная дэкарацыя да нейкай гістарычнай містэрыі.

Яшчэ на пачатку нашага марскога падарожжа я праз матроса перадаў капітану адну са сваіх рускамоўных кніжак з аўтографам. Праз некалькі хвілін матрос знайшоў мяне на палубе і запрасіў у штурманскую рубку. Там мы пазнаёміліся з Сяргеем бліжэй, і ён нават падарыў мне на памяць новенькія капітанскія пагоны. Я палічыў гэта за вялікі гонар, бо на марскім флоце быў толькі матросам, а на рачным дaслужыўся да першага памочніка капітана цеплахода.

Сяргей супакоіў нас, што на Салаўках з пошукам жытла ў экскурсантаў праблем няма (бо тут мы ехалі наўдачу). Больш за тое, ён патэлефанаваў на востраў сваім сябрам, папрасіў не толькі паклапаціцца пра нас, але і зрабіць зніжкі за пражыванне. На прычале нас ужо сустракала мілавідная жанчына Вольга, якая на «Газелі» і прывезла нас у свой прыватны пансіянат. Пражыванне нам абышлося па тысячы расійскіх рублёў у суткі з чалавека. Утульны і разам з тым экзатычны, з разьбяным ганкам і аканіцамі, дамок у паўночным стылі

меў ідэальны парадак і ўсе выгоды цывілізацыі. За асобную плату (60 рублёў) гаспадыня карміла сняданкам — надзвычай смачнай кашай. У дзень прыезду Вольга прапанавала нам экскурсію да скітоў, на Сякірную Гару, на месца, дзе жылі ў час Вялікай Айчыннай вайны выхаванцы школы юнгаў. Вольга расказала, што на востраве жывуць 917 чалавек. Паветра тут чыстае, ваду можна піць з любога возера (у чым мы з задавальненнем пераканаліся). Але ад пражывання ў такіх «стэрыльных» умовах у мясцовых жыхароў страчваецца імунітэт, і калі чалавек апынаецца на мацерыку, то можа вельмі хутка захварэць. А на самім востраве дактароў, мякка кажучы, не хапае. Няма, напрыклад, жаночага доктара. І таму за два тыдні да родаў будучых матуль за казённы кошт адпраўляюць самалётам у Архангельск. Бяда таму, у каго ўзімку забаляць зубы: стаматолага няма, параходы не ходзяць, і ў Архангельск трэба ляцець за свой кошт (чатыры з паловай тысячы рублёў).



*Крыж у памяць тых, хто загінуў, на Сякірнай Гары. На Салавецкіх астравах усталявана больш за сто крыжоў*

## З гісторыі Салавецкага манастыра

«Стоит в пучине морстей неприближно к земли... остров посреде моря, аки звезда в небеси сияет», — так пачынаў аповед «О святей и велицей обители Солавецкой» у XVII стагоддзі адзін з кніжнікаў. Увогуле, Салавецкі архіпелаг — гэта каля сотні астравоў. Праўда, вялікіх — шэсць. Самы значны — Вялікі Салавецкі — 28 км даўжынёй і 16 км упоперак, яшчэ — Заяцкі, Анзер, Вялікая Муксалма... На Вялікім Салавецкім востраве ёсць Святое возера. Камуністы нібы на здзек у савецкія часы перайменавалі яго ў Крамлёўскае. Потым гістарычную назву вярнулі. (Дарэчы, у Святым возеры мне давялося двойчы выкупацца:



*Царква-маяк на Сякірнай Гары*



*Каля марскога музея*

у 1970 годзе і ў гэты раз. Паплаваў сёлета ў сонечны дзень я і ў Белым моры).

Першыя пустэльнікі на бязлюдным востраве пасярод Белага мора з'явіліся ў канцы 20-х гадоў XV стагоддзя. Адзін з іх, Савацій, быў ужо чалавекам сталым. Да гэтага ён жыў у Валаамскім манастыры, адкуль і рушыў далей на Поўнач. На рэчцы Выг (дзе цяпер горад Беламорск) Савацій сустрэў маладога манаха Германа, і яны вырашылі пасяліцца на дзікім востраве. Такога рускія манахі яшчэ не рабілі ніколі. Паставіўшы крыж і зрабіўшы невялічкія келлі, Савацій і Герман пражылі на востраве некалькі гадоў. Яны цярпелі ад завірух і маразоў, доўгія месяцы не маглі патрапіць на мацярык. Аднойчы, калі Германа не было на востраве, Савацій адчуў сябе дрэнна і рушыў на карбасе ў пошуках прычасця. Дабраўшыся да вусця ракі Выг, ён паспеў прыняць прычасце з рук невядомага ігумена і памёр. Але святое месца пуставала нядоўга.



*Гарматы — атрыбутыка салавецкай крэпасці*

Хутка Герман патрапіў на востраў з паплечнікам манахам Засімам, знакамітым наўгародцам, які раздаў сваю маёмасць людзям і вырашыў прысвяціць жыццё манаству і служэнню Богу. Засіма правядзе на Салаўках больш за сорак гадоў, і вакол яго створыцца манаская абшчына. Прайшло няшмат часу, як на востраве была пабудавана «церквица мала». Манахі шмат маліліся і не менш працавалі: капалі зямлю, валілі лес, лавілі рыбу, малолі прывезенае з мацерыка збожжа (на востраве яно не расло), пяклі хлеб. У 1468 годзе ўлады Вялікага Ноўгарада перадалі брацііі ўсе Салавецкія астравы з прамысловымі марскімі ўгоддзямі. Пазней, у 1478 годзе, далучыўшы Ноўгарад да Маскоўскае дзяржавы, Іван III пацвердзіў маёмасныя правы манастыра, які пачаў плённа развівацца. Штогод на мацярык прадавалі дзве тысячы тон вельмі дарагой у той час солі. Манастыр меў 23 ладдзі і шмат малых суднаў. Асаблівага росквіту дасягнула манастырская гаспадарка ў час кіравання ігумена Філіпа (з 1548 па 1566 гады). За гэты перыяд манастыр ператварыўся ў цэнтр духоўнай дзейнасці. Гэта пры Філіпе драўляныя храмы перарабляліся ў каменныя, аддаленыя часткі Вялікага Салавецкага вострава былі звязаны дарогамі, паміж азёрамі праляглі каналы. Пры Філіпе на востраве з'явіўся шпіталь. У 1552–1557 гадах быў пабудаваны трапезны комплекс. Цэгла тых часоў захавалася і дагэтуль. Вапну прывозілі здалёк, 5–7 гадоў яе рыхтавалі адпаведным чынам, перш чым выкарыстоўваць на будоўлі. Манастыр меў свой вадзяны млын, абсталяванне для выціскання алею, вэнджання рыбы. Калі гаварыць пра салавецкія муры, то толькі трапезная «аб адным слупе» мае плошчу 483 квадратныя метры. Тады, у час кіравання Філіпа, у манастыры было 400 манахаў і 600 паслушнікаў. Яны вялі аскетычны лад жыцця. Панядзелак, аўторак і серада былі поснымі днямі.

У 1566 годзе Іван Жахлівы выклікаў Філіпа ў Маскву, дзе ён быў абраны мітрапалітам Маскоўскім і ўсяе Русі. Але яго заступніцтва за пакрыўджаных і звычка гаварыць цару праўду ў вочы прывялі да таго, што 23 снежня 1569 года па царскім загадзе Філіпа задушыў Малюта Скуратаў.

Салавецкая крэпасць была драўляная да 1582 года. А пасля яе пачалі перабудоўваць. Цягнулася гэта 14 гадоў, бо будоўлю на астравах можна весці толькі ўлетку. На сценах былі ўсталяваны гарматы, у манастыры з'явіўся моцны гарнізон. І невыпадкова: на гэтыя мясціны пачалі прэтэндаваць шведы.

Але не скандынаўскія вікінгі ўзялі крэпасць. У XVII стагоддзі адбылося так званае «вялікае салавецкае сядзенне». У 1657 годзе ў манастыр пераслалі перапісаныя паводле ніканіянскай рэформы кнігі, але манахі адрынулі іх і яшчэ 11 гадоў служылі, як і раней. Тады да сцен манастыра ўлады прыслалі стральцоў. Аблога была працяглая. Царскія прыслужнікі не маглі ўзяць манастыр узброенай сілай, але, як часта бывала ў гісторыі, знайшоўся здраднік, які паказаў таемны ход. Захапіўшы крэпасць, стральцы закатавалі больш за 200 манахаў: іх спальвалі жыўцом,



*Гэтым лабірынтам на Заяцкім востраве, паводле сведчання навукоўцаў, больш за пяць тысяч гадоў*



*У царкве часоў Пятра Першага на Вялікім Заяцкім востраве у часы ГУЛага быў жаночы ізалятар*

умарожвалі ў лёд, чаплялі на крукі... На месца тых, што загінулі, прыслалі іншых манахаў, якія нават не ведалі статута манастыра...

Пры Іване Жахлівым на Салаўках была створана манастырская турма. Туды змяшчалі высокіх асоб. Некаторых людзей прывозілі пад нумарам, нават не называлі імя. Дзверы, за якімі яны сядзелі, апячатваліся. «Сакрэтных» вязняў звычайна трымалі ў няволі да смерці. За чатыры стагоддзі праз салавецкую турму прайшло каля 500 чалавек. Адзін з прыхільнікаў старой веры правёў на Салаўках 63 гады, але так і не адмовіўся ад яе. Пабывалі ў манастырскай турме і прадстаўнікі роду, да якога належаў Аляксандр Пушкін, — Павел Ганібал, а таксама Сяргей Пушкін, якога за тое, што падрабляў грошы, пазбавілі не толькі дваранства, але і імя... У канцы XIX стагоддзя турма была ліквідавана.

Аднак адбыўся бальшавіцкі пераварот 1917 года. І ў 1920 годзе манастыр закрылі, а на яго месцы ўтварылі саўгас. Маёмасць і каштоўнасці разрабавалі, а каб схаваць сляды, падпалілі манастырскія будынкі. Агонь не маглі суняць тры дні. Гарэла званіца, упалі і пабіліся званы... Тое, што засталося ад святыняў, нават не перапісвалі — пазначылі, адпраўляючы на мацярык, толькі вагу...

## У святым месцы з'явіўся СЛОН

У маі 1923 года савецкая ўлада ператварыла святое месца ў Салавецкі лагер асаблівага прызначэння («Соловецкий лагерь особого назначения» — «СЛОН»), які дзейнічаў да 1939 года. Пазбаўленыя волі афіцэры былой царскай арміі, святары, проста заможныя людзі, а потым і звычайныя сяляне былі дармовай сілай на самых розных работах: капанні торфу, вырабе цэглы, лесараспрацоўках. Месцы, дзе людзей трымалі ў нечалавечых умовах і змушалі да непасільнай працы, называліся «камандзіроўкамі». Там узводзіліся часовыя збудаванні, ставіліся печкі-буржуйкі. Вязні спалі на падлозе, працавалі па 14–16 гадзін у суткі, імкнучыся выканаць амаль нерэальную норму. Лес, які высякаўся на астравах, ішоў у Кемь, а адтуль яго прадавалі за валюту за



Фота Vitold Muratov, wikimedia.org

мяжу. На Сякірнай Гары, самай высокай на востраве, быў штрафны ізалятар для зняволеных. Траплялі на «Сякірку» альбо тыя, хто адважыўся на ўцёкі і быў злоўлены, альбо так званыя «палітычныя». Там узімку людзей трымалі ў неацепленых памяшканнях, катавалі холадам. На верхні паверх былой царквы людзей заганялі толькі ў нацельнай бялізне, і, каб хоць неяк сагрэцца, пакутнікі ўкладваліся штабялямі адзін на аднаго, а потым ніжнія і верхнія «штабелі» мяняліся месцамі з тымі, хто быў усярэдзіне. Памерлых скідвалі ўніз па спецыяльным жолабе. Здаралася, што «зэкі» ўсё ж уцякалі з лагера. Але... Мясцовыя жыхары здавалі ўцекачоў энкавэдэшнікам. За гэта атрымлівалі паёк і грошы (большыя, чым за забітага ваўка). Для пошуку ўцекачоў выкарыстоўваўся і гідрасамалёт.




***Плакат у музеі ГУЛага***

Вось як піша пра трагедыю салавецкіх вязняў яе сведка, віленскі беларус Францішак Аляхновіч у аповесці «У кіпцюрах ГПУ»: «Хавалі нябожчыкаў на старым манастырскім магільніку за “женротай”, там, дзе адбываліся расстрэлы. Тамака заўсёды была нарыхтаваная яма, разлічаная на большменш 200 трупаў. У гэтую яму санітары скідалі із скрыні прывезеныя трупы й пакрывалі яму дошкамі. Дошкі закладаліся не вельмі шчыльна, дык удзень можна было добра бачыць панакіданыя ў яме бязь ніякага парадку целы мужчынаў і жанок, старых і маладых...»

Здзекі з людзей працягваліся тут да 1939 года. Праз салавецкія лагеры прайшлі сотні тысяч чалавек. Вязні будавалі і Беламорска-Балтыйскі канал, усцілаючы яго сваімі касцямі, пілавалі лес... Калі ў краінах Захаду даведаліся, хто і як гэты лес нарыхтоўвае, там адмовіліся купляць піламатэрыялы. Пачаліся праверкі. Тады «камандзіроўкі» тэрмінова спальвалі, а рабочых высялялі глыбей у тайгу. Сярод «назіральнікаў» быў і пісьменнік Максім Горкі. Наведаўшы ў 1929 годзе лагер, ён так напіша пра салавецкіх чэкістаў: «Не хочется, да и стыдно было бы впасть в шаблонные похвалы изумительной энергии людей, которые, являясь зоркими и неутомимыми стражами революции, умеют вместе с тем быть замечательно смелыми творцами культуры». Пэўна, пралетарскі пісьменнік не разгледзеў таго, чаго не хацеў бачыць, не схацеў паверыць, што ў маладой савецкай краіне ўжо дзейнічаюць канцэнтрацыйныя лагеры, досвед стварэння якіх потым быў пераняты гітлераўскай Германіяй. Бясспрэчна, Ленін і Сталін, якія ператварылі святыя месцы, цытадэль духоўнасці ў жудасную турму, — сапраўдныя «глыбы»: гэтыя «глыбы» задушылі і ўціснулі ў зямлю дзясяткі мільёнаў людзей...

У 1939 годзе салавецкі лагер ліквідавалі. Набліжалася вайна, у тым ліку з Фінляндыяй, і была небяспека, што вязні паўцякаюць туды (такія выпадкі здараліся раней). Так завяршылася яшчэ адна трагічная старонка жыцця вострава.

**Фото Vitold Muratov, wikimedia.org**



## Вяртанне

У 1967 годзе ў Салавецкім манастыры быў адкрыты музей. Дзейным манастыр зноў стаў у 1990-м, і першыя манахі атрымалі імёны Засімы і Германа. У гэты ж час з вострава з'ехалі ваенныя маракі, якія дыслакаваліся тут пасля скасавання Салавецкага лагера асаблівага прызначэння.

Нягледзячы на такую няпростую і трагічную гісторыю гэтых мясцін, тут шмат таго, што цікавіць і зачароўвае. Найперш — прырода. Азёры, камяністыя ўзгоркі і сопкі, мора! Недалёка ад пасёлка на Вялікім Салавецкім востраве ёсць так званыя Філіпаўскія садкі. Там манахі ў старажытныя часы зрабілі запруду з камянёў і, выкарыстоўваючы прылівы і адлівы (два разы ў суткі, вышыня прыліву на Салаўках — паўтара метра), лавілі рыбу. Садкі зроблены так, што ў іх пры адліве заставалася толькі вялікая рыба, а малая сыходзіла назад у мора.

На астравах больш за 600 азёр. 67 з іх ужо ў XVI стагоддзі былі аб'яднаны каналамі, па якіх манахі перамяшчаліся на чаўнах. Калі ў XVIII стагоддзі на Салавецкіх астравах жыло каля тысячы манахаў і паслушнікаў, вырашылі пабудаваць там невялікі завод для вырабу свечак. Воск дастаўлялі з мацерыка. Гарачую ваду, якая выкарыстоўвалася для ліцця свечак, сталі адводзіць па трубах і ацяпляць ёю «аранжарэю». У выніку манахі атрымалі магчымасць вырошчваць на беразе Белага мора памідоры, кавуны, дыні, вінаград. Там рос і бадан — трава, якую збіралі пасля зімы, як сыдзе снег, і з якой атрымліваўся цудоўны чай. Трэба сказаць, што і ў часы ГУЛага батанічны сад амаль не пацярпеў: начальнік лагера любіў экзатычныя расліны. Іх высаджвалі і даглядалі зняволеныя. Сёння ад былое раскошы батанічнага сада на востраве засталася толькі адна яблыня...

У 1908 годзе манахі запусцілі на востраве гідраэлектрастанцыю, якая працавала да 1914 года. Цяпер электраэнергію для патрэб вострава выпрацоўвае дызель, газ на архіпелагу не праведзены. Што тычыцца электрычнасці, то на Салаўках дзейнічаюць дзённы і начны тарыфы: 3,0 рублі за кілават-гадзіну, выкарыстаную ўдзень, і 0,85 — за начную (з 23.00).

Каля Вялікага Салавецкага вострава час ад часу можна ўбачыць бялуг, якіх называюць паўночнымі дэльфінамі (дасягае бялуга шасці метраў у даўжыню). Яны надзвычай цікава вучаць сваіх дзетак здабываць рыбу — паказваюць на вадзе, як глушыць яе хвастом. Увогуле бялугі больш часу бавяць у Анежскім заліве Белага мора. Там яны суправаджаюць цеплаходы, выслізгваючы з вады і дэманструючы свае далікатныя жываты.

На Салавецкім архіпелагу шмат храмаў. Там ёсць дзе памаліцца, паставіць свечку, падаць памінальныя запіскі. Усё гэта можна зрабіць непасрэдна ў манастыры.

На востраве шмат шапікаў з сувенірамі, ёсць крамы, кавярні, нават мастацкая галерэя. І хоць гучная назва зусім не пасуе да мізэрнага будынка, у ім магчыма па невысокіх коштах набыць (мы, вядома ж, зрабілі гэта) творы архангельскіх мастакоў. У манастырскай лаўцы ёсць абразы святых, у тым ліку мясцовых, крыжыкі, ланцужкі, духоўныя кнігі. Няма толькі абменных пунктаў валюты, таму трэба загадзя паклапаціцца, каб у кішэні была дастатковая колькасць расійскіх грошай.

На Сякірнай Гары ёсць адзіная ў Расіі царква-маяк. У 1904 годзе ў Парыжы былі замоўлены і дастаўлены сюды спецыяльныя крыштальныя лінзы, з дапамогай якіх святло маяка было відаць за 40 кіламетраў. Частка гэтых лінзаў захавалася і сёння. Належыць маяк-царква цяпер Міністэрству абароны РФ і, як і шмат гадоў таму, паказвае караблям шлях. Цяпер на Сякірнай Гары жывуць чатыры манахі. Праўда, жывуць яны цывілізавана: тут і сонечная батарэя, і мабільныя тэлефоны, і квадрацыкл...

На Вялікім Салавецкім востраве ў 1942–1945 гадах была, як сказана вышэй, школа юнгаў, у якой прайшлі навучанне каля 1500 падлеткаў. Месцілася яна ў лесе, хлопцы жылі ў зямлянках па 50 чалавек. Многія з іх загінулі, змагаючыся з ворагам. Гэту школу скончыў вядомы пісьменнік Валянцін Пікуль. На востраве ёсць музей школы юнгаў з цікавымі экспанатамі. Ёсць і марскі музей, дзе можна ўбачыць унікальныя прылады для здабычы звера і рыбы, гістарычныя дакументы. Вядома ж, на Салавецкім востраве ёсць і гулагаўскі музей са шматлікімі сведчаннямі тых жудасных часоў, у тым ліку спісамі тых, хто



*У марскім музеі*



загінуў ці быў расстраляны. У музеі ёсць магчымасць паглядзець фрагменты фільма, знятага ў канцы 1920-х гадоў энкавэдэшнікамі. Там пакутнікі выглядаюць шчаслівымі працаўнікамі. Па словах экскурсавода, падчас здымкаў ахоўнікаў пераапраналі ў вязняў…

У салавецкай вандроўцы нам пашчасціла не толькі з надвор'ем. Атрымалася так, што менавіта ў адзін з трох дзён нашага знаходжання на востраве, 21 жніўня, мы патрапілі на адно з самых значных мясцовых святаў — перанясенне мошчаў заснавальнікаў Салавецкага манастыра. Было шмат святароў, манахаў, паломнікаў, адбыўся вельмі ўрачысты хрэсны ход.

З таго, што яшчэ ўдалося ўбачыць у час паездкі, вельмі ўразілі старажытныя лабірынты на Вялікім Заяцкім востраве, якім, паводле сведчанняў гісторыкаў, больш за пяць тысяч гадоў. Дзіўна і тое, што на гэтым востраве, які знаходзіцца ўсяго за пяць кіламетраў ад Вялікага Салавецкага, зусім іншыя, тундравыя, клімат і раслiннасць. Арабінкі па калена вышынёй, як запэўніў экскурсавод, маюць узрост 70–80 гадоў. Карлікавыя бярозкі, лішайнікі, пра якія мы некалі чыталі ў падручніках геаграфіі… На гэтым востраве нават хадзіць дазволена толькі па драўляных мастках, каб не знішчыць унікальны ландшафт. А яшчэ там цудоўная маленькая цэркаўка часоў Пятра Вялікага, гаспадарчыя збудаванні. Цяжка паверыць, што ў часы ГУЛага на «Зайчыках» быў штрафны ізалятар для жанчын. Зараз на востраве жыве толькі наглядчык…

На жаль, мы не паспелі наведаць востраў Анзер, дзе знаходзіцца Галгофа-Распяцкі скіт. На гэтым востраве ў 20-я — 30-я гады мінулага стагоддзя закатавалі шмат святароў.

…Дамоў вярталіся без асаблівых прыгод. Пасля начлегу ў Рабочааастроўску ад прычала да Кемі ўранні даехалі аўтобусам. З акна вагона (ужо Беларускай чыгункі!) назіралі ўсё тыя ж карэльскія краявіды. Суседкай па купэ на гэты раз была карэнная паморка, якая вярталася са сваёй малой радзімы ў Вялікі Ноўгарад, дзе жыве з сям'ёй і выкладае ва ўніверсітэце. Сваім аповедам пра выезд у карэльскія лясы ў грыбы, ягады і на рыбу яна дапоўніла нашы ўражанні пра Поўнач.

У Оршы высветлілася, што «прамы» вагон Мурманск — Баранавічы стаіць там аж восем гадзін. Вырашылі пакінуць яго, удала памянялі квіткі і паехалі дадому іншым цягніком. І задоўга да прызначанага часу вярнуліся дамоў, у Баранавічы.

…Днямі патэлефанаваў на Салаўкі. Насамрэч нам пашчасціла: пасля нашага ад'езду пачаўся шторм, надвор'е сапсавалася. І зноў прыгадалася песня Віхарава:

*На Соловецких островах дожди, дожди…*
*Ну как расскажешь на словах, что льют дожди?*
*В конверт письма не уложить — ветра, шторма.*
*Нет, надо просто здесь пожить —*
*Ты приезжай сама…*

У дзень ад'езду на беразе мора, проста ля вады, знайшоў вялікі, даўжынёй аж чатыры метры, добра пацёрты, цяжкі кавалак якарнага ланцуга. Шкада было пакідаць такі рарытэт, але і ўзяць яго не было магчымасці. А вось некалькі камянёў з Салавецкіх астравоў мы, па традыцыі, усё ж прывезлі. І манетку з прычала ў ваду кінулі. А раптам вернемся?..

***Фота аўтара***

# Расія, ад якой не ўцячэш на Месяц

**«Бедная, убогая, прыніжаная і абрабаваная Расія», — так «паэтычна» ахарактарызавала сваю краіну адна з удзельніц чарговага прэс-тура, вялікая прыхільніца Лукашэнкі. Гэтая самазабойчая характарыстыка прагучала на прэс-канферэнцыі беларускага прэзідэнта для расійскіх СМІ ў Мінску 11 кастрычніка 2013 года.**



*Аляксандр КЛАСКОЎСКІ*

Аўтарка выказвання відавочна хацела такім чынам палесціць гаспадару, падкрэсліць дасягненні «беларускай мадэлі», але не прасякла, што ў разважлівага беларуса першае пытанне: а на чорта нам інтэгравацца з такой, мякка кажучы, праблемнай суседкай?

Палымяныя інтэгратары з абодвух бакоў разпораз выстаўляюць сябе на пасмешышча. Возьмем беларускую дзяржаўную прэсу. То яна цвердзіць, што збліжэнне з Расіяй абяцае казачную перспектыву, то малюе тамтэйшыя рэаліі з такім канцэнтратам негатыву, што тушы святло; Зянон Пазьняк на гэтым тле — адпеты русафіл.

Я даўно не чытаю сістэмна дзяржаўную прэсу і не гляджу ў вялікіх дозах БТ з меркаванняў псіхічнай гігіены. Прагладаю толькі прыцэльна асобныя рэчы. Бо ў таго, хто рэгулярна спажывае казённы медыйны прадукт, ва ўсякім разе прысвечаны дачыненням з Расіяй, можа элементарна паехаць дах.

## «Плаўны» пераход ад панегірыкаў да мачылава

Свежы прыклад — калійная вайна, якая вылілася і ў медыйную сферу. Беларускія тэлеканалы раптам сталі страшэнна перааймацца лёсам горада Беразнікі, пад якім месцяцца руднікі «Уралкалія»: капут, маўляў, гэты населены пункт у Пермскім краі літаральна праваліваецца скрозь зямлю, а цынічныя гаспадары кампаніі ў вус не дзьмуць.

Я далёкі ад таго, каб ідэалізаваць расійскі капіталізм, але факт тое, што «Уралкалій» укладае сродкі ў перасяленне людзей з небяспечных месцаў на іншы бераг Камы. Гэта па-першае. Па-другое, правалы адбываліся ў 2007–2011 гадах. Дзе ж вы былі раней, плакальшчыкі? Ці ўся рэч у тым, што тады не было адмашкі на мачылава?

У асвятленні калійнага канфлікту адразу ж акрэсліўся водападзел між дзяржаўнымі ды недзяржаўнымі беларускімі СМІ. Першыя былі аўтаматычна ўлучаныя ў піяраўскае забеспячэнне дзёрзкіх дзеянняў уладаў, пачынаючы з арышту гендырэктара «Уралкалію» Уладзіслава Баўмгертнера. Тэлеканалы і тыя газеты, што месцяцца ў сталічным Доме прэсы, залпам стрэлілі па прагных ды падступных расійскіх таўстасумах, у «лепшых» традыцыях назвалі злачынцаў да суда. На вайне як на вайне: іншых трактовак канфлікту, акрамя афіцыйнай, дзяржаўныя медыі проста не дапускаюць.

У таго, хто рэгулярна спажывае казённы медыйны прадукт, ва ўсякім разе прысвечаны дачыненням з Расіяй, можа элементарна паехаць дах.

Таксама не перастае ўражваць іх «плаўны» пераход ад панегірыкаў да мачылава і наадварот. Паўтонаў, здаецца, гэтыя рэдакцыі не ведаюць. Зыходзячы з досведу папярэдніх інфармацыйных войнаў, можна прагназаваць: пасля таго як калійны канфлікт будзе пагашаны, скіраваную на ўсход прапагандысцкую зброю імгненна зачахляць. Зробяць выгляд, што нічога не было, а крытыкаў сумнеўных хаўрусаў з расійскім бокам зноў стануць клеймаваць за падкопы пад непарушную дружбу і братнюю інтэграцыю. Цалкам у духу оруэлаўскай антыўтопіі з яе феноменам двудумства.

## Белыя ды пухнатыя алігархі пацярпелі ад крывавага рэжыму?

Што ж да недзяржаўных медыяў, то тыя рэсурсы, місія якіх палягае ў апрыёрнай радыкальнай крытыцы беларускіх уладаў, парадаксальным

чынам сталі падаваць калійную вайну пераважна з прарасійскіх пазіцый. Ахвотна давалі трыбуну прадстаўнікам «Уралкалію», расійскага ўраду, асобным блізкім да Крамля палітолагам, нейкім ананімным знаўцам калійнай сферы — карацей, усім, хто вінаваціў у канфлікце выключна Лукашэнку ды прадракаў яму вялікія непрыемнасці. Іншыя пункты погляду амаль што не прэзентаваліся.

«Для тых, хто стала крытыкуе кіроўны рэжым у Беларусі, гэтая сітуацыя — магчымасць кінуць камень у бок рэжыму», — мяркуе медыйны эксперт Паўлюк Быкоўскі. На яго думку, пры трактоўцы новага сюжэта спрацоўваюць «старыя формулы».

У выніку — фантасмагарычная карціна: белыя і пухнатыя расійскія алігархі пацярпелі ад крывавага рэжыму. Хаця нават не надта абазнаны абыватаць нутром адчувае: у калійнай вайне абое рабое.



Развіццё сюжэта паказала, што трапілі пальцам у неба тыя каментатары, якія цвердзілі: «Ну, гэтым разам Лукашэнка дагуляўся, перайшоў чырвоную рысу, Крэмль яго размажа па сценцы». Пуцін жа, наадварот, даў зразумець, што хоча разрульваць справу «без шуму ды гаманы». Канечне, цалкам імаверна, што гаспадар Крамля, былы афіцэр КДБ, які нічога не забывае, знойдзе магчымасць адпомсціць за прыніжэнне. Аднак цяпер ён надзвычай зацікаўлены своечасова стварыць Еўразійскі звяз і распачынаць з Лукашэнкам поўнамаштабную вайну не стане.

## Замест экспертаў — ангажаваныя асобы

Увогуле ж мы былі сведкамі цэлай чарады войнаў Мінска з Масквой, калі гучалі прадказанні, што кіраўніка Беларусі скруцяць у бараноў рог, але ў выніку Крэмль так ці іначай ішоў на кампраміс, трымаючы ў галаве класічны прынцып «свайго сукінага сына».

Можна зразумець настроі непрымірымых палітычных ворагаў Лукашэнкі, якім карціць, каб хоць Пуцін зрабіў тое, што не шэнціць зрабіць ім. Але ж місія СМІ — даваць living рознабаковую карціну, узважаны аналіз, а не трансляваць палітычныя мроі. На жаль, глыбокага асэнсавання прадмета часта нестае нават тым айчынным медыям, што імкнуцца да збалансаванай падачы тэмаў. Дамінуюць не сапраўдныя знаўцы праблематыкі, у нашым выпадку — беларуска-расійскіх дачыненняў, а тыя, хто можа з любой нагоды зухавата сфармуляваць пару ходкіх тэзаў.

Тут ёсць, вядома, і аб'ектыўныя прычыны: кола незалежных экспертаў вузкае, ды і яны, кладучы руку на сэрца, часта гадаюць на кававай гушчы, бо самі пакутуюць без інсайдарскай інфы. Але разам з тым згубную ролю адыгрываюць стэрэатыпы мыслення ды элементарная лянота журналістаў. Ёсць абойма выпрабаваных суразмоўцаў, якія будуць артыкуляваць менавіта тое, што даспадобы аўтару сюжэта. Глыбокі жа спецыяліст, які імкнецца не паддавацца палітычнай кан'юнктуры, можа сказаць рэчы, што не надта пасуюць ужо адбудаванай аўтарскай канцэпцыі. Ну і што потым з выказваннямі такога разумніка рабіць?

У выніку, калі вяртацца да асвятлення калійнага канфлікту, дык нават у тых СМІ, што стараюцца прыўзняцца над бойкай, патрабаванні плюралізму, рознабаковага аналізу датрымліваюцца часам толькі фармальна, адзначае Паўлюк Быкоўскі. На яго думку, беларускім і расійскім медыям бракуе «нармальнай экспертызы». Нестае голасу адмыслоўцаў, здольных прааналізаваць калізію кампетэнтна, без залішняй палітызацыі.

Гэта ж тычыцца і іншых перыпетый беларуска-расійскіх дачыненняў.

Варта Лукашэнку выбрацца чарговы раз кудынебудзь у Сочы на міжсабойчык з Пуціным, як пэўная катэгорыя рэсурсаў ставіць кружэлку: «Ну ўсё, паехаў здаваць незалежнасць! Гэтым разам ужо сто адсоткаў здасць!» Некаторыя каментатары ўвогуле ўпэўненыя, што беларускі кіраўнік — марыянетка Крамля. Крамлёўцы, маўляў, прасунулі некалі свайго кадра ў крэсла, яны ж і тузаюць за нітачкі. Аматары канспіралогіі цвердзяць, што і калійная вайна разыграна цалкам паводле крамлёўскага сцэнару.

Лукашэнка — марыянетка Крамля? Ну-ну!

Канспіралагічныя версіі зручныя тым, што не трэба ўключаць мазгі. Ёсць апрыёрная схема, у якую ўціскаецца кожная рэальная падзея. Але ж за 19 з гакам гадоў кіравання Лукашэнка зрабіў занадта шмат такога, што не стыкуецца з вобразам маскоўскай марыянеткі. Ён фактычна заблакаваў працэс так званага саюзнага будаўніцтва, калі зразумеў, што крамлёўскі пасад не свеціць, а вось увядзенне агульнай валюты ды прыняцце Канстытуцыйнага акта Саюзнай дзяржавы пагражае стратай непадзельнага панавання над Беларуссю. Чаму ж Крэмль не здолеў націснуць марыянетку, прымусіць яе падпісаць усе паперы, што вялі да інкарпарацыі? Чаму і сёння расійскія кіраўнікі рэгулярна атрымліваюць ад наравістага хаўрусніка анучай па твары ды мусяць толькі крыва ўсміхацца?

Ці ўзяць газавыя войны, калі «Газпром» меў каласальныя фінансавыя ды іміджавыя выдаткі. Што, гэта таксама было прапісана ў крамлёўскім сцэнары?

Дзеля якога ражна трэба было страчваць шалёныя бабкі, паўставаць клоўнамі перад усёй Еўропай? Чаму не здолелі проста тузануць марыянетку?

Як бачым, занадта шмат пытанняў, што ніяк не ўкладаюцца ў простыя схемы. Пры тым што эканамічная залежнасць Беларусі ад Расіі сапраўды каласальная. Фішка, аднак, у тым, што Масква апынулася ў палоне ўласных вялікадзяржаўных памкненняў, спалучаных з геапалітычнымі фобіямі. Расія, не завяршыўшы адзін этап інтэграцыі, пачынае ладзіць новыя структуры: то Саюзную дзяржаву, то Мытны звяз, то Адзіную эканамічную прастору, то Еўразійскі эканамічны звяз. Ужо эксперты заблыталіся. А беларускі правадыр гэтым спрытна карыстаецца. Маўляў, калі вам гэта трэба, то праплачвайце. І задача беларускага кіраўніцтва сёння — атрымаць перадаплату за чарговы этап «братняй інтэграцыі».

Тэарэтычна Масква сапраўды можа закруціць кран і за лічаныя месяцы, а мо і тыдні, абваліць беларускую эканоміку, спарадзіць тут поўны хаос. Але ж, як кажа аналітык Юрый Дракахруст, нельга кіраваць землятрусам. Масква спрабавала ўжо за кошт агрэсіўных сцэнароў асядлаць сітуацыю ў Грузіі, Украіне... Атрымала ў выніку вялікі галаўны боль. У выпадку з Беларуссю Крэмль відавочна ўважае за лепшае не будзіць ліха. Бо ствары тут хаос — невядома, што атрымаеш на выхадзе. Тым болей што, як ні парадаксальна, сваёй моцнай пятай калоны ў нас Расія не мае. Нават калі да ўлады тут прыйдзе нехта вонкава лаяльны да Крамля, то абсалютна не факт, што ён захоча скакаць пад маскоўскую дудку, атабарыўшыся ў суверэнным крэсле. Украінскага прэзідэнта Януковіча да пары да часу таксама трактавалі як прарасійскую фігуру, а цяпер ён хоцькі-няхоцькі вядзе курс на збліжэнне з Еўразвязам.

Палітолаг Валер Карбалевіч перакананы, што і Лукашэнка дэ-факта праводзіць значна болей незалежны курс, чым многія краіны кантынента. Дадам сваё меркаванне: дачыненні двух рэжымаў, патэнцыялы якіх несувымерныя, — той класічны выпадак, калі хвост круціць сабакам.

## Усходняя суседка нікуды не падзенецца

Саміт Мытнага звязу ў Мінску 24 кастрычніка 2013 года яскрава паказаў, што і Лукашэнка, і Назарбаеў выдатна карыстаюцца пільнай патрэбай Пуціна своечасова запусціць Еўразійскі эканамічны звяз і выбіваюць з Крамля максімум саступак. Натуральна, у Маскве не такія дурні і стараюцца толькі падвесіць моркаўку, патрабуюць сустрэчных саступак. У гэтым і палягае спецыфіка еўразійскай інтэграцыі, што моцнай ідэі і празрыстых правілаў гульні няма, кожны з бакоў імкнецца сарваць куш, не саромеючыся пры выпадку аб'ягорыць партнёраў. Лукашэнка выдатна разумее, што яго хочуць зацягнуць у пастку, але паколькі выбіраць партнёраў пры брыдкіх стасунках з Захадам не выпадае, а рэсурсы патрэбныя, то імкнецца зняць вяршкі, атрымаць ад расійскага кіраўніцтва аванс, а потым неяк адкруціцца ад непрыемных абавязкаў, нават тарпедаваць працэс, як гэта было ў выпадку Саюзнай дзяржавы.

Увогуле аўтарытарныя рэжымы інтэгруюцца, як мокрае гарыць. Ніводны з правадыроў не хоча ахвяраваць ні калівам улады над сваёй краінай. І, як ні парадаксальна, менавіта ў гэтым палягае дэ-факта адна з надзей для апазіцыйных змагароў за незалежнасць, у якіх сёння відавочна нестае пораху зваліць рэжым. Еўразійскі праект Пуціна — гэта замак на пяску.

Журналістам жа варта выразна ўсведамляць, што палітыкі — як ва ўладзе, так і ў апазіцыі — ёсць закладнікамі пэўных ідэалагем. Таму пры любой інфармацыйнай нагодзе ставяць тую ці іншую кружэлку са свайго звыклага рэпертуару, зводзяць складаную карціну да пляскатай схемы. А вось медыям любую палітычную праблематыку, тым болей такую шматслойную, як у выпадку беларуска-расійскіх дачыненняў, варта падаваць больш паліфанічна ды шматгранна. Важна бачыць іх дыялектыку. Не ўлягаць ні ў міфалогію «братняга яднання», ні ў вузкалобы нацыяналізм (а такі існуе, гэта не проста газетнае клішэ).

> Журналістам варта выразна ўсведамляць, што палітыкі — як ва ўладзе, так і ў апазіцыі — ёсць закладнікамі пэўных ідэалагем.

У прыватнасці, цікавы матэрыял для роздуму даюць шматгадовыя даследаванні НІСЭПД. Яны сведчаць, што значная частка беларусаў па-ранейшаму канстатуе ментальную, культурную блізкасць да расійцаў, хаця пакрысе імкненне да інтэграцыі з усходняй суседкай у нашым грамадстве астывае, а еўрапейскі вектар становіцца болей папулярным. Але, зноў жа, тут трэба корпацца ў лічбах, якія не заўжды адпавядаюць палітычным стэрэатыпам. Працай зганіць сацыёлагаў, што з ахвотай і робяць сёння прадстаўнікі самых розных палітычных сіл. Правільна, давайце біць апошнія люстэркі і заставацца ў сваім Залюстроўі!

Мой асабісты прагноз такі: Расія не адужае праект Еўразійскага звязу ў жаданым для яе духу «збірання зямель», не здолее ператравіць Беларусь. Іншая рэч, што для нашай краіны ў гэтых гульнях рэжыму з Азіёпай можа быць змарнавана занадта шмат каштоўнага гістарычнага часу.

У межах еўразійскай інтэграцыі, гэтага друзлага альянсу адсталых постсавецкіх аўтакратый, няма спружын для скачка ў сусветную эліту. Так што стаўка мусіць быць на карэнныя палітычныя перамены ў нашай краіне. Аднак і пасля змены рэжыму Расія нікуды не падзенецца, застанецца суседкай, з якой наканавана будаваць роўныя, спакойныя дачыненні — без фальшывай саладжавасці, але і без праклёнаў ды істэрык.

# За кулісамі палітыкі



*Генадзь КЕСНЕР*

**Гэты артыкул не будзе прысвечаны палітычнаму закуліссю Беларусі ці Захаду. Назоў «За кулісамі палітыкі» меў «двухактавы» медыяпраект, ладжаны Берлінскай школай журналістаў (BJS, Berliner Journalisten-Schule) у чэрвені і верасні 2013 года. У праекце ўдзельнічалі дзесяць журналістаў з Польшчы, Латвіі, Эстоніі, Чэхіі, Венгрыі, Румыніі, Балгарыі, Славеніі ды Беларусі. Сярод запрошаных быў і аўтар гэтых радкоў.**

Праект прысвячаўся падрыхтоўцы і правядзенню 22 верасня гэтага года парламенцкіх выбараў у Германіі ды меў за мэту азнаёміць журналістаў з палітычнай сітуацыяй у гэтай краіне, з тым, як палітычныя суб'екты рыхтуюцца да галоўнай электаральнай кампаніі чатырохгоддзя. У выніку выбарчай кампаніі абіраецца не толькі дзейны парламент — бундэстаг, але і федэральны канцлер — кіраўнік урада і фактычны галава дзяржавы (хоць у Нямеччыне ёсць і пасада прэзідэнта, які выконвае пераважна прадстаўнічыя функцыі).

Я не збіраюся рабіць аналіз вынікаў апошніх федэральных выбараў. Адзначу толькі, што наступныя чатыры гады Германіяй фактычна будзе кіраваць Ангела Меркель — лідар блока ХДС-ХСС, першая ў гісторыі гэтай дзяржавы жанчына, якая ўжо дагэтуль восем гадоў стаяла ля стырна «лакаматыва еўрапейскай эканомікі», як Нямеччыну называюць у свеце. Я толькі распавяду, як ставяцца да журналістаў германскія ўлады, якую ўвагу яны надаюць прадстаўнікам СМІ — як сваім, так і замежным.

Але звернемся да згаданага вышэй праекта.

## Сутнасць запрашэння

Першы этап праекта «За кулісамі палітыкі» быў азнаямленчы. На тыдзень нас запрасілі ў Берлін і Гамбург. Там журналістаў чакала сустрэча з арганізатарамі праекта з Берлінскай школы журналістаў (BJS, Berliner Journalisten-Schule), якія азнаёмілі нас з праграмай. Праграма нас насамрэч заінтрыгавала. Для журналістаў былі прадугледжаны сустрэчы з вядомымі палітыкамі і палітолагамі, са знакамітымі германскімі калегамі.

Галоўнай умовай сустрэчаў былі шчырасць і прафесійная адказнасць. Справа ў тым, што мэтаю першай часткі праекта былі не столькі самі патэнцыйныя публікацыі запрошаных журналістаў у медыях сваіх краін, колькі магчымасць разабрацца ў сітуацыі вакол выбараў у Германіі. Каб потым, ужо ў верасні, адчуваць сябе больш «падкаванымі» ва ўсіх «шчыгулах» тых працэсаў, што адбываюцца зараз і за якімі давядзецца назіраць потым. Каб мець досвед, з якога рабіць адпаведныя высновы ў сваіх матэрыялах.

У чэрвені нам давялося сустрэцца з былым канцлерам Германіі Гельмутам Шмітам і цяперашнім





міністрам навакольнага асяроддзя і кантролю за атамнымі рэактарамі Петэрам Альтмаерам, з прадстаўнікамі ўсіх найважнейшых суб'ектаў палітычнага жыцця краіны, а таксама з калегамі з самых розных выданняў. Усе сустрэчы былі настолькі цікавымі, што мы нават не паспявалі сачыць за часам — гэтак хутка, падавалася, ён пралятаў.



*Былы канцлер Германіі Гельмут Шміт*



*Міністр навакольнага асяроддзя Петэр Альтмаер*

Другі этап — верасень 2013 года — наша непасрэдная праца на выбарах. Сярод нас былі і супрацоўнікі тэлеканалаў, вымушаныя выходзіць у эфір па некалькі разоў на дзень (некаторыя ўжо а пятай раніцы), і «газетчыкі», альбо «прынт-медыйнікі», як называюць журналістаў друкаваных СМІ на Захадзе, і «радыйшчыкі», і «анлайнаўцы» — прадстаўнікі інтэрнэт-медыя. Карацей, усе, ад каго хоць неяк залежыць медыяпрастора сусвету.

## Дысцыпліна перадусім

Адразу адзначу: калі цябе запрашаюць у падобныя праекты, тым больш звязаныя з такімі значнымі падзеямі, як парламенцкія выбары ў Германіі, трэба дакладна выконваць просьбы і патрабаванні арганізатараў. Напрыклад, улічваць «дэд-лайн» падачы дакументаў на акрэдытацыю. Вось маленькі прыклад: мая калега з Эстоніі, якая брала ўдзел і ў першай частцы праекта, не надала належнае ўвагі гэтай акалічнасці. І ў выніку засталася без акрэдытацыі ў прэс-цэнтры для замежных журналістаў. Бедная дзяўчына была пазбаўленая магчымасці карыстацца ўсімі дабротамі гэтага прэс-цэнтра. А вось дапамагчы постфактум атрымаць акрэдытацыю не змаглі нават нашыя ўмоўныя «патроны» — прадстаўнікі Берлінскай школы журналістаў. Парадак ёсць парадак. Тым больш у Нямеччыне.

І яшчэ адна парада калегам: будзьце пільныя, калі прыязджаеце працаваць нават у самыя добрапрыстойныя краіны свету. Найкаштоўнейшыя рэчы — а для журналіста гэта не толькі пашпарт і гаманец, але і камера, комп альбо планшэт, дыктафон ці фотаапарат — пастарайцеся насіць з сабою. Гэта не з пальца высмактанае пажаданне. Вось маленькая гісторыя — яшчэ адзін прыклад.



20 верасня ўвечары тыя з удзельнікаў праекта, хто ўжо дабраўся да Берліна і засяліўся ў загадзя замоўлены нам гатэль, сабраліся ў барчыку ля рэцэпцыі, каб павітаць адзін аднаго, паціснуць рукі, абмяняцца абдымкамі. Бо, па шчырасці, мы вельмі пасябравалі яшчэ падчас нашага чэрвеньскага знаходжання ў Германіі. Наперадзе — тры дні працы. У кожнага, зразумела, свая праграма. І вось па выглядзе нашай калегі-сяброўкі з Венгрыі мы разумеем, што нешта тут не так. Высветлілася, што яе відэааператар (а дзяўчына прыехала асвятляць выбары ад аднаго з незалежных тэлеканалаў), які прыехаў з ёю і засяліўся ў суседні гатэль, літаральна на гадзіну пакінуў тэхніку ў сваім пакоі. А калі вярнуўся, то дарагой прафесійнай тэлекамеры на месцы не аказалася. Не дапамаглі ў пошуках ні супрацоўнікі гатэля, ні паліцыя. Прынамсі, калі мы пакідалі Берлін, камеру няшчасных вугорцаў знайсці так і не ўдалося.

Дзякуй Богу, на дапамогу прыйшлі нашы калегі з усё той жа BJS. У іхным загашніку былі дзве належныя відэакамеры, з дапамогаю якіх Пірожка (так звалі нашу сяброўку) змагла ўсё ж выходзіць у эфір. Так што, калегі, будзьце пільныя, і няхай вас не збіваюць з панталыку еўрапейская цывілізацыя і добрапрыстойнасць — людзі розныя, і не самыя лепшыя ёсць паўсюль. І за ўсімі не прасочыш, а такія сябры, як супрацоўнікі Берлінскай школы журналістаў, трапляюцца не кожнаму.

## Умовы для працы — толькі пазайздросціць

Што да ўмоваў, створаных для акрэдытаваных замежных журналістаў на сёлетніх выбарах, то яны былі вельмі прыстойныя і, галоўнае, забяспечвалі ўсе магчымасці для бесперашкоднай



працы. Перад уладальнікам прэс-бэйджа расчыняліся ўсе дзверы міжнароднага прэсцэнтра. Надзвычай хуткі інтэрнэт, працоўныя месцы за зручнымі столікамі, незлічоныя разеткі (для тых, у каго шмат тэхнікі), персанальная падсветка, навушнікі.



Дарэчы, я не адразу сцяміў, навошта навушнікі, бо, як правіла, у міжнародны прэсцэнтр у Германіі ўсё ж прыязджаюць журналісты, якія валодаюць нямецкай мовай. Усё стала зразумела крыху пазней, калі бліжэй да паабедзеннага часу на экраны прэс-цэнтра пайшла карцінка з галоўнага выбаркама — аналага нашай ЦВК — з першымі дадзенымі па яўцы выбарцаў. Гук ішоў толькі праз навушнікі, каб не перашкаджаць (!) тым журналістам, якія тут жа па тэлефонах або перад камерамі выходзілі ў жывы эфір. Астатнія нават не звярталі на іх увагі, «цюкаючы» тэксты тут жа ў рэжыме анлайн на сваіх цудах тэхнікі ў тых самых навушніках. Усё прадугледжана!

**У цывілізаваным свеце акрэдытацыя журналістаў існуе выключна дзеля таго, каб спрыяць выкананню імі належным чынам сваіх прафесійных абавязкаў.**

## Ізноўку дысцыпліна

Гарачых і прахаладжальных напояў, канапак, а ў раёне абеда і гарачых стравах (усё бясплатна) было багата. Для задавальнення гастранамічных патрэбаў журналістаў у прэс-цэнтры была створана адмысловая зона. Але з адной умовай: ніякіх напояў і ежы ў самой зале, дзе працуюць журналісты. Не ўсе гэта «дапёрлі». Асабліва выхадцы з постсавецкай прасторы, якія стараліся вярнуцца за свае столікі з поўнымі талеркамі альбо са шклянкамі з колай-фантай-сокам ці кубкам гарбаты-кавы. За імі з ветлівымі ўсмешкамі шыбавалі прэс-цэнтраўскія афіцыянткі і з такімі ж ветлівымі ўсмешкамі ўжо без каментароў канфіскоўвалі не дазволеныя да пранясення ў залу напоі-закускі. Некаторыя медыйныя «акулы» спрабавалі абурацца, але хутка змаўкалі пад асуджальнымі позіркамі больш разумных і звыклых да нармальных манераў калег.

Кожны журналіст мог наведаць выбарчыя ўчасткі, партыйныя цэнтры, выбаркамы, але для гэтага таксама трэба было мець асобныя акрэдытацыі. Хто пра іх парупіўся загадзя, як гэта і прадпісвалася арганізатарамі выбараў і адказнымі за працу з масмедыя структурамі, мелі ўсе магчымасці. Да паслугаў журналістаў былі прапанаваныя камфартабельныя аўтобусы, што давозілі іх на тыя мерапрыемствы, якія былі прадугледжаныя і ў якіх самі медыйнікі жадалі прыняць удзел. Потым усіх транспартавалі назад у прэсцэнтр. Гарачыя стравы можна было атрымаць да самага позняга часу, пакуль працаваў прэс-цэнтр і пакуль там заставаўся хоць хтосьці з журналістаў.

На наступны дзень там жа сабраліся каля паўтысячы калег, каб па выніках выбараў сустрэцца з вядомымі ў Германіі экспертамі. Амаль усе, хто хацеў, маглі задаць ім пытанні. Хоць — у мяне склалася ўражанне — мадэратар усё ж аддаваў перавагу «монстрам» з сусветных медыя і інфармацыйных кампаніяў. Тым не менш агульнае ўражанне — файнае.

## Выснова

Яна будзе кароткай. У цывілізаваным свеце акрэдытацыя журналістаў існуе выключна дзеля таго, каб спрыяць выкананню імі належным чынам сваіх прафесійных абавязкаў. У Беларусі — дзеля абмежавання такіх магчымасцяў.

У Германіі не пытаюцца, які СМІ — дзяржаўны ці не (дзяржаўных у беларускім разуменні там увогуле не існуе) — ты прадстаўляеш. У Беларусі ёсць «чэсныя», якім усялякі дзяржаўны вецер у спіну, і «нячэсныя», якім найчасцей «ад варот паварот» там, дзе штосьці тычыцца тае самае дзяржавы.

І хто лепей жыве? І дзе лягчэй працаваць журналісту? Ну не ў нашых жа начальнікаў, адказных за СМІ, пытацца.

*Фота аўтара*

# Журналисты должны освещать события адекватно при любых обстоятельствах

*www.mediafreedomwotch.org*

**«Одной из главных целей исследования, которое мы проводим в шести странах Восточного партнерства, является влияние на процессы в области свободы СМИ, и, естественно, это влияние может быть реализовано посредством публичных обсуждений», — заявил президент Ереванского пресс-клуба Борис Навасардян, представляя первый ежеквартальный отчет по мониторингу свободы СМИ.**

Исследование проводится в рамках проекта «Мониторинг свободы СМИ восточного региона Европейской политики соседства», осуществляемого в партнерстве с «Интерньюз-Украина» и поддержанного Евросоюзом. По словам Бориса Навасардяна, во всех шести странах (Украина, Грузия, Молдова, Армения, Беларусь, Азербайджан) журналистам и экспертам представляются результаты исследования и проходят обсуждения способов преодоления негативных тенденций в том или ином государстве.

Согласно исследованию, Армения в рейтинге свободы СМИ занимает третье место, опережая Украину, Азербайджан и Беларусь. Местных журналистов заинтересовало, чем обусловлена такая высокая оценка ситуации в области СМИ в Армении. В интервью EaP Media Freedom Watch президент Ереванского пресс-клуба Борис Навасардян ответил, в частности, и на этот вопрос. «Я бы не сказал, что этот рейтинг на сегодняшний день можно интерпретировать как очень высокий, поскольку мы отстаем от Молдовы и Грузии», — заявил он.

Прогресс же в армянской медиасфере обусловлен в основном двумя факторами, считает президент ЕПК. Во-первых, достаточно сбалансированным освещением трех масштабных избирательных кампаний, прошедших в стране в 2012–2013 гг.: общенациональных парламентских и президентских выборов, а также столичных муниципальных выборов. По мнению Бориса Навасардяна, «впервые в истории армянских вещательных СМИ со стороны политических сил и партий не было претензий к освещению собственно избирательных кампаний». Это, безусловно, не могло не отразиться на общей оценке медиаситуации в Армении.

«И второй фактор, который мы отмечаем, это преодоление — надеюсь, окончательное — той серьезной проблемы, которую мы имели в судебной практике по делам об оскорблении и клевете», — продолжил Борис Навасардян. В 2010–2011 гг. применение соответствующих положений Гражданского кодекса Армении вкупе с компенсацией морального ущерба фактически имело репрессивный характер. Оно представляло собой серьезную угрозу для независимых средств массовой информации, особенно тех, которые пишут о коррупционных скандалах, занимаются журналистскими расследованиями. Суды, напомнил Навасардян, были склонны становиться на сторону истцов, которые в основном представляли армянскую политическую или бизнес-элиту. Уже с конца 2011 г. эта тенденция, можно сказать, в значительной степени преодолена, и сегодня армянские суды, рассматривая диффамационные иски, следуют в основном стандартам, которые определены Европейским судом по правам человека. Длительная кропотливая работа юристов и журналистов привела к тому, что суды вынуждены отныне считаться с общественным мнением.

«Это и есть те два главных фактора, которые повлияли на общую оценку и общую ситуацию», — заключил Борис Навасардян, выразив при этом сожаление, что «в других сферах зафиксировать больших достижений мы не можем, и даже те успехи, о которых мы говорим, в части, касающейся деятельности телевещания, пока не имеют стабильного характера». Собеседник проиллюстрировал сказанное тем, что после выборов «мы опять же видим достаточно конъюнктурное освещение главных общественно-политических событий, в том числе и вызвавших в связи с некоторыми решениями властей социальную напряженность». На ведущих армянских телеканалах, по мнению Бориса Навасардяна, освещение этих тем носит провластный характер.

Отвечая на вопрос, может ли внести коррективы в ситуацию «горячая политическая осень», обещанная многими политиками и общественными деятелями, Борис Навасардян ответил: «Проходящие сегодня акции протеста, связанные с разными социальными проблемами, становятся главными оперативными поводами для деятельности журналистов. Это те темы, которые сейчас наиболее актуальны и вызывают широкий общественный интерес. Остается пожелать, чтобы СМИ отнеслись к таким темам и событиям адекватно, а не пытались преследовать какие-то узкие партийные или политические интересы, освещая эти вопросы».

Понятно, что любая социальная активность и любые события, которые оказывают влияние на общественную жизнь, становятся интересными и для политических кругов. Каждая политическая группировка пытается использовать это движение в своих целях, взять его под свой контроль. Те СМИ, которые примыкают к каким-то политическим кругам, интерпретируют события соответствующим образом. Эта проблема есть, и на нее нужно обращать самое серьезное внимание, заключил Борис Навасардян.

*EaP Media Freedom Watch*



# Гісторыя вясковага п'янства



*Іна ХОМІЧ*

**Ці то співанне, ці то спітасць сучаснай беларускай вёскі даўно ўспрымаецца як заканамернасць. Старыя бабулькі яшчэ трымаюцца, а дзяды праз аднаго-двух любяць «умазаць», і далёка не толькі па святах. Што ўжо казаць пра моладзь, якая развучылася разумна бавіць вольны і нават рабочы час і не ўяўляе адпачынку без алкаголю.**
**Калегі-журналісты напісалі пра гэта шмат, і прычыны «нацыянальнай трагедыі» даследаваліся неаднаразова. Мы ж пагаворым менавіта пра ачмурэнне беларускай вёскі.**

Знайсці экспертаў па гэтай тэме не так і проста. «Вы думаеце, у Беларусі навукоўцу дазволяць даследаваць гісторыю п'янства?» — іранізуе адзін з гісторыкаў, чалавек пры пасадзе, таму прасіў сябе не называць. Навукоўцу, можа, і не дазволяць, а журналісту ніхто не перашкодзіць. Хай звесткі, здабытыя ім, і не такія фундаментальныя, і высновы могуць быць суб'ектыўнымі, але ж тэма надта балючая, каб абмінуць яе толькі з прычыны «нястачы» буйных экспертаў.

## Адзнака для абраных

Першапачаткова нам вельмі дапамог этнограф, старшы выкладчык кафедры гісторыі славянскіх народаў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна **Сафроній Жлоба**. Яго калега, калі рэкамендаваў даследчыка, так і казаў: «Лепшага спецыяліста не знойдзеце. У яго нават дыпломнік быў, чыя праца зрабіла на камісію вялікае ўражанне, — пра гісторыю самагонаварэння на Палессі. Там нават схемы самагонных апаратаў былі. Праўда, гэтая праца неўзабаве чароўным чынам знікла».

Сафроній Паўлавіч пачаў здалёк: «Спіртное было вядома вельмі даўно. Магчыма, ужо першабытны чалавек ведаў пра яго ўласцівасці. Не выключана, што першымі спажыўцамі алкаголю былі паганскія жрацы, якія такім чынам даводзілі сябе да экстазу. А далей спіртное магло патрапіць у вышэйшыя слаі грамадства. Але гэта толькі гіпотэза, навукова не даказаная».

Доказы ўжывання алкаголю тым не менш прысутнічаюць ужо ў летапісах, дзе сустракаюцца аповеды пра княскія піры. «Але гэта не былі моцныя спіртныя напоі, — адразу папярэджвае Жлоба. — Былі мяды, солады, магчыма, прадукты браджэння ягад і садавіны. У зброджаных мядах было 12–14°».

Этнограф выказвае меркаванне, што ў Старажытнай Русі пілі значна больш, чым у княствах, якія ўтварыліся пасля яе развалу і ў якіх панаваў стан пастаяннай баявой гатоўнасці, — алкаголь з ёю мала стасуецца.

Але што да нашай тэмы — співання не вышэйшых колаў грамадства, а менавіта вяскоўцаў, — эксперт выказваецца адназначна: сялянства да XVIII ст. алкаголю не ведала. «Гэта можна лічыць даказаным фактам, — кажа ён. — Колькі мы ні будзем чытаць гістарычныя крыніцы, згадкі пра гэта не знойдзем».

## Ці пілі сяляне ў ВКЛ?

Спрэчкі выклікае толькі позні перыяд у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Калі Сафроній Жлоба ўпэўнены, што ў ВКЛ бязбожна піла толькі шляхта (пра гэта засталося шмат згадак у дакументах), то даследчык гісторыі Беларусі з таго ж універсітэта **Уладзімір Здановіч** лічыць, што пілі ўсе, проста побыт чэлядзі не так глыбока вывучаны. «Асобных дысертацый пра ўжыванне простымі людзьмі алкаголю дакладна няма. Магчыма, ёсць згадкі ў шырэйшых даследаваннях», — разважае гісторык.

Нечакана такая згадка знайшлася ў адкрытым доступе. Гарадзенская даследчыца **Наталля Сліж** яшчэ на пачатку 2000-х апублікавала ў мясцовай газеце «Биржа информации» артыкульчык, які так і называўся: «Піва, віно і гарэлка ў ВКЛ». Тут сцвярджаецца: «Піва, гарэлка і медавуха карысталіся попытам у прадстаўнікоў усіх саслоўяў: шляхты, духавенства, мяшчан і сялян. Традыцыйным месцам, дзе ўжывалі вышэйпералічаныя напоі, была карчма. Магдэбургскае права дазваляла гарадскім уладам адчыніць на рынкавай плошчы карчму і карыстацца яе прыбыткамі. Напрыклад, у мястэчку Шадава ў 1554 г. было 113, з іх 93 — піўныя, 4 — мядовыя, 16 — гарэлачныя. Яны маглі належаць прадстаўнікам любых саслоўяў. У кожным шляхецкім маёнтку была карчма, якая часта здавалася ў арэнду. Піцейныя дамы адчыняліся пры кляштарах, цэрквах, касцёлах».

А вось яшчэ цікавая для нас цытата: «З напояў найбольшым попытам карысталася піва. Піва вышэйшага гатунку ўтрымлівала 5 % алкаголю і называлася “шляхецкім”. У ВКЛ дазвалялася варыць піва для сябе. Падаткаў за піва не трэба было плаціць, калі ім не гандлявалі. Гарэлка стала распаўсюджвацца на тэрыторыі Вялікага Княства з сярэдзіны XVI ст. Яна была трох відаў: 15–20 %, 35–40 % і 70 % (гэта ўжо лічыўся спірт). Адной з лепшых была “Залатая гарэлка”. Яе маглі сабе дазволіць толькі заможныя людзі. Рэцэпт гарэлкі налічваў некалькі лекавых каранёў і 4 залатыя манеты. Дарэчы, гарэлку спажывалі не толькі ўнутр, але і пры хірургічных аперацыях. Віны пачалі прывозіць з-за мяжы з канца XVI ст. У асноўным гэта былі венгерскія віны, італьянскія і мараўскія».

Праўда, сярод апублікаваных Наталляй Сліж прыкладаў празмернага ўжывання алкаголю, зафіксаваных у судовых ці ў іншых гістарычных дакументах, няма такіх, дзе фігуруе сялянства. Мяркуем, што простыя людзі ўсё ж не былі заўсёднікамі карчмы. Прынамсі местачковай.

Таму амаль з упэўненасцю можна сцвярджаць, што да часоў заняпаду дзяржавы селянін калі і ўжываў алкаголь, то залежнасці ад яго не меў. П’янства заставалася заняткам пазбаўленых штодзённай цяжкай працы шляхты і магнацтва.

## Атос, Партос, п’янтос...

Далей дапамагаюць аднавіць гісторыю беларускага вясковага п’янства літаратуразнаўцы. Гісторык беларускай літаратуры **Генадзь Праневіч** кажа, што вобраз п’янага селяніна прабіваецца ў нашае пісьменства ў XVIII ст., у перыяд позняга барока. Такі герой прысутнічае, напрыклад, у інтэрмедыі «Вакханалія» (1725 г.) і ў «Ковенскім зборніку» (1731 г.).

Генадзь Праневіч заўважае, што алкагольная тэма становіцца больш актуальнай у крызісны час ВКЛ і пасля падзелаў Рэчы Паспалітай: «Напэўна, больш пачала піць шляхта, а за ёю і сяляне. Усё можна звязаць з духоўным крызісам грамадства».

Так ці інакш, калі ў XVIII ст. мы сустракаемся з «п’янай» тэматыкай толькі зрэдку і ў гумарыстычным ключы, то ўжо паэты XIX ст. згадваюць пра пахмельнага мужычка сур’ёзна і часта. Некалькі такіх дыдактычных вершаў напісаў Ян Чачот, а літаратура другой паловы стагоддзя дык і ўвогуле з гэтай тэмай неразлучная. Успомнім хацяб Францішка Багушэвіча, герой твораў якога часцяком наведвае «жыдоўскую карчомку», каб забыцца на свае нядолі.

У мастацкія сведчанні ўмешваецца расійская дакументалістыка XIX ст. Напрыклад, для імператара Мікалая I быў падрыхтаваны «Ваенна-статыстычны агляд Расійскай імперыі», дзе ёсць тамы, прысвечаныя беларускім губерням. А ў гэтых тамах — раздзелы з апісаннем побыту і нораваў мясцовага насельніцтва. Пра жыхароў Гродзенскай губерні імперскія чыноўнікі пішуць: «*Сохраняя грубые нравы, они склонны к веселостям, разврату и пьянству*». І так — па кожнай беларускай губерні. Наколькі гэта аб’ектыўна? Хто яго ведае, асабліва калі ўлічыць, што рускаму насельніцтву дадзеныя зусім процілеглыя характарыстыкі.

Аднак ёсць і іншыя дакументы. Адзін з іх знайшла даследніца свайго радаводу **Валянціна Дабрыніна**, якая напісала невялікую кніжачку, куды заносіла не толькі прыватныя звесткі пра сямейнікаў, але і проста фонавыя гістарычныя падзеі, што лічыла важнымі для продкаў-вяскоўцаў. Яна цытуе «Гродненские епархиальные ведомости» за 26 ліпеня 1909 г., дзе друкуецца зварот сінода пра барацьбу з п’янствам у народзе: «*...При введении правил о раздробительной питейной продаже Святейший Синод предписывал епархиальным преосвященным не допускать раздробительной продажи питей на церковных и монастырских землях... Пьянство среди городского и сельского населения представляет собою порок, оказывающий самое пагубное влияние на религиозность и нравственность народа, расстраивающий семейную жизнь и имущественное благосостояние... Ныне не бывает почти ни одного общественного схода, не решается почти ни одного общественного дела в деревне без обильного спаивания крестьянской толпы водкою... Пьют по случаю храмовых праздников, пьют на свадьбах, на крестинах, на похоронах; пьют взрослые, пьют подростки; пьют женщины и девушки. Не меньшие безобразия совершаются в городах, среди различных групп городского населения, хотя многое и оказывается здесь лучше скрытым*».

Знайшла Валянціна Дабрыніна і пастанову пачатку стагоддзя Гродзенскага губернскага камітэта, дзе гаворыцца пра шкоднасць правядзення штотыднёвых кірмашоў: «*...Вред приносят слишком частые и повсеместные, а экономически неоправданные торговые дни, или ярмарки, устраиваемые*

*еженедельно по малым городкам и местечкам, населенным почти одними евреями... На ярмарках встречается самая лучшая способность пьянствовать во многих тайно содержимых евреями кабаках*».



## Без войнаў не абышлося

Калі Генадзь Праневіч казаў пра духоўны крызіс, які садзейнічаў співанню народа ў XVIII–XIX стст., то Сафроній Жлоба дадае сюды яшчэ некаторыя аб'ектыўныя штрышкі. Ён прапануе не забываць, што ў XVII ст. развіваецца вытворчасць спірту, якая ў XVIII ст. толькі набірае размах. Колькасць броварaў імкліва расце. Спірт актыўна купляла Еўропа, бо гэта стратэгічны ваенны прадукт. Яго ўжывалі ў медыцынскіх, а таксама тэхнічных мэтах, і попыт на яго быў вялікі.

Росквіт самагонаварэння ў вёсках быў звязаны з Першай сусветнай вайной. Крах грашовай сістэмы і вытворчасці зрабіў сялян надзвычай вынаходлівымі. «У тыле стаялі атрады раманцёраў, якія займаліся коньмі: выбракоўвалі непрыдатных для баёў і рэквізавалі новых. Дык за бутэльку добрай самагонкі людзі набывалі спісанага з войска каня», — расказвае этнограф. Гэтаксама куплялі жалеза, розныя рэчы.

Як і кожная валюта, алкаголь у якасці разліковай адзінкі паступова дэвальваваўся, і за таго ж каня раманцёры пасля прасілі дзве, а то і тры пляшкі самаробнага напою. Значыць, вырабляць трэба было больш і больш. Гэта, праўда, не азначала, што самагоншчыкі абавязкова мусілі быць алкаголікамі.

## Беларусь Усходняя і Заходняя

Пасля Грамадзянскай вайны Беларусь раз'ядналася, і ў кожнай яе частцы сітуацыя з п'янствам трохі адрознівалася. **Янка Брыль** у сваім інтэрв'ю «Нашай ніве» ў 2006 г. распавядаў: «Дык а хто ж нас навучыў піць, заходнікаў, як не ўсходнікі? У нас не было такога разумення: сто грам, шклянка... Я помню, раз на вяселлі адзін дзядзька заліхвацкі выпіў цэлую шклянку гарэлкі, дык усе стоячы глядзелі, ці разарвецца яго, ці не».

Сафроній Жлоба пацвярджае, што ў Заходняй Беларусі пілі менш, хоць самагон у тых раёнах, дзе яго навучыліся гнаць падчас вайны, паранейшаму рабілі. Меншы распаўсюд алкаголю на захадзе краіны быў часткова звязаны з тым, што ў Другой Рэчы Паспалітай зноў з'явілася манаполія на яго вытворчасць (яна існавала і пры першай Рэчы Паспалітай) і самаробныя бровары час ад часу знішчаліся. Але галоўная розніца была ў тым, што ва Усходняй Беларусі была горшай эканамічная сітуацыя, таму алкаголь не страчваў там сваёй пакупніцкай вартасці. Да яго ўсё больш і больш прывыкала не толькі савецкае начальства, але і рабочы ды рамесніцкі люд.

Пранікненне зялёнага змея на Берасцейшчыну памятаюць старэйшыя жыхары рэгіёна. Людзі з Пружанскага, Камянецкага, Кобрынскага і Іванаўскага раёнаў, з якімі даводзілася размаўляць на гэтую тэму, аднагалосна казалі, што ў іх маладосці ў вёсках не пілі. Распавядалі, што алкаголікамі ў даваенны час лічыліся тыя мужчыны, якія раз на месяц наведвалі карчму.

**Надзея Ганчарук** з Камянеччыны ўспамінае, як мужчыны тады бавілі вечары: «Як я была малой, то бацька браў мяне з сабою. Людзі збіраліся ў адной хаце, сядалі пад сценамі на падлогу, бо крэслаў не было, і размаўлялі. Не пілі, барані Божа! А як раздабудуць недзе чакушку, дык вельмі рэдка. Не памятаю я п'яных у сваім дзяцінстве».

Гэтак жа сталыя людзі апісваюць традыцыйныя вясковыя вяселлі даваеннага і нават пасляваеннага часоў. На такім свяце быў адзін кілішак, з якога сват даваў па чарзе выпіць.

## Крызіс і вадкая валюта

Як можна заўважыць, дакументальныя сведчанні таго ж XIX ст. і ўспаміны вясковых старажылаў не супадаюць. Ідэалізацыя мінулага, якая прымушае казаць, што ў маладосці было лепш? Не зусім.

Па-першае, такога павальнага алкагалізму з дэградацыяй асобы не было ніколі. Па-другое, распаўсюд алкаголю быў даволі неаднародным і меў свае заканамернасці. Наркатычны напой хутчэй пашыраўся там, дзе стаялі войскі, дзе быў блізка горад і дзе жылі паны, што ўтрымлівалі бровар. Толькі ў крызісныя гады гарэлка распаўсюджвалася аднолькава хутка паўсюль. Тут самы час прыгадаць апошні этап алкагалізацыі сялянства, які пачаўся з сярэдзіны 80-х мінулага стагоддзя і, па ўсім відаць, зацягнуўся.

Несуцяшальныя лічбы аб'ёмаў ужывання алкаголю ў Беларусі на душу насельніцтва, а таксама рост колькасці дзяцей-сірот пры жывых бацьках гавораць пра тое, што канца гэтага этапа яшчэ не відаць.

*Фота Міланы Харытонавай*

# «У ВАСІЛЯ БЫКАВА БЫЎ ШАНС», —

## так пасля яго скону гаварылі ўрачы ў Празе і Мінску

*Заканчэнне. Пачатак у № 5 (101) 2013 г.*



*Сяргей ШАПРАН*

**У папярэднім нумары «А» паведамлялася, што гэты матэрыял рыхтаваўся да друку вясной 2005 года ў газеце «БДГ. Для служебного пользования». Напярэдадні гадавіны з дня смерці Васіля Быкава я пагаварыў з двума дактарамі: Сяргеем Юрчанкам, анестэзіёлагам-рэаніматолагам, старшым ардынатарам універсітэцкай бальніцы «Матол» у Празе, і Генадзем Мураўёвым, кіраўніком аддзела НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі ў Бараўлянах. Сяргей Юрчанка, дарэчы, — ураджэнец Беларусі, працуе разам з жонкай у пражскай бальніцы. Менавіта яны ўвесь час былі побач і падтрымлівалі Васіля Быкава, калі ён праходзіў курс лячэння ў Празе.**

Прафесара ж Мураўёва я доўга не бачыў. Звярнуўся да яго праз пару гадоў, калі рыхтавалася да друку мая кніга «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця», і папрасіў дазволу ў Генадзя Мікалаевіча даць невялічкі фрагмент з яго інтэрв'ю. На гэты раз ён не быў супраць, хаця раней катэгарычна адмаўляўся ад публікацыі нашай вялікай размовы.

З цягам часу я зразумеў прафесара: яго сапраўды маглі чакаць непрыемнасці, праца ж была, мусіць, сэнсам яго жыцця. І нашто яму было рызыкаваць дзеля артыкула ў газеце? Газеты жывуць дзень, два, тыдзень, праца ж, калі ты яшчэ і добры прафесіянал, — рэч пажыццёвая. Тым больш што абвінавачваць Генадзя Мікалаевіча ў баязлівасці было б, мякка кажучы, некарэктна. Гэта менавіта ён, прафесар Мураўёў, калі ў снежні 2010 года ў Мінску кадэбісты скралі з рэанімацыйнай палаты бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі гвалтоўна збітага кандыдата ў прэзідэнты Някляева, даў дырэктару бальніцы кароткую тэлеграму, з адным толькі словам: «Нягоднік!» Потым Уладзімір Някляеў прыгадваў гэтую гісторыю ў сваім эсэ і звяртаўся да Генадзя Мураўёва: «Пазней на маю заўвагу, што, бадай, не варта было так, Вы сказалі, што, калі б былі паэтам, дык, можа, знайшлі б гэтаму слову сінонім, але, паколькі доктар, дык і не шукалі».

Цяпер, праз восем гадоў, я ўсё ж вырашыў надрукаваць тое інтэрв'ю. Наважыўся па адной толькі прычыне (і спадзяюся, Генадзь Мікалаевіч не быў бы на мяне ў крыўдзе): у мінулую восень прафесар Мураўёў раптоўна памёр. Зразумела, што ніякая публікацыя яму ўжо не можа нашкодзіць — ніхто і ніадкуль яго цяпер не звольніць. Між тым у дзясятую гадавіну з дня смерці Васіля Быкава варта прыгадаць, якімі ж былі апошнія дні пісьменніка, адным са сведкаў якіх (і сведкам важным) быў прафесар Мураўёў. Сам ён пасля гаварыў, што не пра ўсё распавёў падчас нашага інтэрв'ю, што хоча неяк сам сесці і напісаць. Але ці сабраўся, ці паспеў зрабіць гэта прафесар Мураўёў?..

### Генадзь МУРАЎЁЎ:
### «БЫКАЎ, КАНЕШНЕ, ПРА ЎСЁ ЗДАГАДВАЎСЯ…»

— *Генадзь Мікалаевіч, калі звярнуўся да Вас Быкаў?*

— У панядзелак 2 чэрвеня а дзясятай гадзіне раніцы. Я сказаў: «Прыязджайце. Буду чакаць». Але ён адказаў: «Я не вельмі добра адчуваю сябе пасля прыезду з Прагі. Потым у мяне ёсць пэўная справа. Давайце перанясём візіт на пятніцу».

— *Васіль Уладзіміравіч з уласнай ініцыятывы патэлефанаваў Вам, ці нехта параіў яму?*

— Думаю, што сам. Пасля было яшчэ некалькі тэлефанаванняў. То я званіў: «Як Вы сябе адчуваеце, Васіль Уладзіміравіч? Ці не перадумалі?..» — то ён. Менавіта з гэтых размоў я пачаў разумець, што справы яго зусім кепскія.

— *Такім чынам, Быкаву рабілася горш?*

— Так, рабілася ўсё горш і горш. Я нават аднойчы сказаў: «Прыязджайце заўтра, проста з раніцы». Па-мойму, у сераду ўвечары мы размаўлялі. Ён у адказ: «Ну

раз дамовіліся ў пятніцу, у пятніцу і прыеду». А ў чацвер патэлефанаваў Гедройц, намеснік міністра культуры: «Мы заўтра даём машыну Васілю Уладзіміравічу. У дзесяць гадзін раніцы ён будзе ў Вас».

*— А якое дачыненне мае да гэтай справы Міністэрства культуры?*

— Не ведаю. Можа, таму што машыну далі?

*— Адкуль яны даведаліся, што Быкаў у пятніцу будзе ў Вас?*

— Таксама не ведаю.

*— Вы ж, напэўна, пыталіся, якія лекі прымае Васіль Уладзіміравіч?*

— Канешне.

*— І, напэўна, ён назваў прэпарат Xeloda?*

— Так.

*— І Вы параілі яму яго не прымаць?*

— Не, я нічога не раіў, бо не бачыў яго, — мы ж толькі па тэлефоне размаўлялі. А ўбачыў у пятніцу, тады і правёў яго па ўсіх кабінетах. У выніку Быкаў прайшоў усебаковае абследаванне. Тады ж я сказаў: «Васіль Уладзіміравіч, гэты прэпарат трэба адмяняць, бо ён не дзейнічае, абсалютна ніякага эфекту не дае». Быкаў жа быў чалавекам дысцыплінаваным: яму сказалі глытаць гэтыя пігулкі — ён і глытаў. Але марна.

*— Якраз у тыя дні, у чэрвені 2003-га, Вы гаварылі, што, калі б Васіль Уладзіміравіч апынуўся ў Вас яшчэ да таго, як лёг у бальніцу ў Празе, Вы сур'ёзна падумалі б, ці трэба рабіць аперацыю...*

— Так, канешне. Перш-наперш я паглядзеў бы, у якім стане печань. Бо рак тоўстага кішэчніка найперш дае метастазы ў печані, і калі б яна была чыстая, аперацыю зрабіў бы. Калі не, дык, мусіць, пачаў бы з прамянёвай тэрапіі ў спалучэнні з хіміятэрапіяй. Але зараз ужо цяжка сказаць, з чаго я пачаў бы.

Зразумела, што пасля аперацыі, якую зрабілі Быкаву ў Празе 27 сакавіка, трэба было назначыць той хіміяпрэпарат, які і рэкамендавалі пражскія ўрачы. Але праз два тыдні неабходна было паглядзець, дае ён эфект ці не. Калі не, дык трэба было адмяніць яго і назначыць іншую схему — тую, якую мы ў выніку і назначылі.

Быкаў быў у нас у пятніцу, затым паехаў дамоў і вярнуўся ўжо ў панядзелак з раніцы. Мы адразу праверылі ўсе паказчыкі: сэрца, лёгкія, печань, ныркі... А ў аўторак пачалі падрыхтоўку да вельмі агрэсіўнага, моцнага курса хіміятэрапіі. Праўда, 11 чэрвеня яму стала кепска, але вынікі хіміятэрапіі не прымусілі сябе чакаць: 14 чэрвеня печань стала на 2 сантыметры меншая...

Хаця б у нас быў месяц часу, ужо не кажу — год, тады мы маглі б даць яму тры-чатыры гады жыцця — гэта без усякіх пытанняў. І ён бы памёр ад іншай хваробы, а не ад раку — у яго астма была, сардэчныя справы. Ён сканаў бы ад інфаркту, інсульту, нарэшце, ад бранхіяльнай астмы, але, паўтаруся, не ад раку... Хаця б годам раней... Аднак нават аднаго месяца ў нас ужо не было... Тым больш што скаргі ў яго былі яшчэ за год да аперацыі. Зразумела, што мы тых скаргаў ніколі не прапусцілі б.

*— Наколькі ведаю, цяжкахворых у такім узросце ў Бараўлянах звычайна не прымаюць. Але для Быкава было зроблена выключэнне менавіта таму, што гэта Быкаў?*

— Толькі таму.

*— Калі 17 чэрвеня мы былі ў яго разам з Рыгорам Барадуліным і Генадзем Бураўкіным, дык нельга было не заўважыць, што Васіль Уладзіміравіч паводзіў сябе вельмі мужна. Але ці было яму балюча?*

— Так, канешне, але ж справа ў тым, што боль мы здымалі — прамідол калолі.

*— Значыцца, ён не пакутаваў?*

— Не.

*— Памятаю, калі ўжо пасля скону Быкава патэлефанаваў расійскаму пісьменніку Даніілу Граніну, ён толькі і спытаў: «Ці пакутаваў Васіль?» Але я тады не ведаў, што і адказаць...*

— Не, як толькі пачынаўся боль, мы адразу калолі... Хаця, канешне, у першыя дні, калі рабілі абследаванне, былі даволі непрыемныя, але звычайныя працэдуры.

*— А ў рэанімацыю Быкава перавялі 20 чэрвеня, таму што пагоршыўся стан яго здароўя?*

— Так, стан пагаршаўся, усе паказчыкі нараслалі, печань фактычна была — адна ракавая пухліна. Але мы гэта прадбачылі.

*— Ці размаўлялі Вы ў гэтыя дні з Быкавым?*

— Няшмат, бо, па-першае, ён быў слабы. Дый я сам не лічыў, што павінны быць нейкія размовы... Я гаварыў яму пра стан здароўя, пры гэтым крышку абнадзейваў. А пра жыццё, пра ўсё астатняе — вельмі рэдка, толькі калі ён сам кранаў якую-небудзь тэму...

Да прыкладу, неяк зайшла ў нас гаворка... Я кажу: «Васіль Уладзіміравіч, мне тэлефанаваў Някляеў — ён хоча прыехаць». Быкаў у адказ: «У мяне добрае стаўленне да Валодзі, якога лічу вельмі таленавітым паэтам. Канешне, калі ён прыедзе, я буду рады яго бачыць». Іншым разам ён загаварыў пра тое, што вось падрыхтаваная кніга, дзе частка яго творчасці, частка — Барадуліна (размова, мусіць, ішла пра кнігу «Калі рукаюцца душы...», якая ў той час рыхтавалася, а выйшла ўжо пасля смерці В. Быкава. — *С. Ш.*). Пасля паглядзеў на мяне і дадаў: «Ведаеце, Генадзь Мікалаевіч, мне здаецца, што Рыгор піша вельмі добрыя вершы».

А 16 ці 17 чэрвеня, калі яму было крышку лепш, я неяк стаяў ля акна, а Васіль Уладзіміравіч раптоўна кажа: «Генадзь Мікалаевіч, я добра памятаю нашу з Вамі цяжкую размову дваццаць гадоў таму. Так здарылася, што я апынуўся ў анкалогіі...»

Дваццаць гадоў таму ад раку памірала яго першая жонка Надзея Андрэеўна, і Васіль Уладзіміравіч тады пытаўся, ці магчыма чым-небудзь ёй дапамагчы. Я адказаў,

што мы выкарыстоўваем тую ж методыку лячэння раку, што і ва ўсім свеце, лекі, якія маюцца на Захадзе, зараз ёсць і ў нас, далей расказаў пра гэтую методыку па этапах...

— А ці будзе карысць? — спытаў тады Васіль Уладзіміравіч.

— Праблематычна. Думаю, што ў тым стане, у якім апынулася Надзея Андрэеўна, гэта ў лепшым выпадку дасць адтэрміноўку на год-два, не болей...

Звычайна мы не памыляемся ў прагнозах. Справа ў тым, што Надзея Андрэеўна захварэла на рак у даволі маладым узросце. Калі б ёй было за шэсцьдзясят, лячэнне можна было б працягваць гадамі. Дапамагчы нечым зараз было ўжо немагчыма.

Васіль Уладзіміравіч яшчэ пытаўся: «А ці нельга яе ўладкаваць на лячэнне за мяжу? Мабыць, гэта неяк дапаможа?» Аднак я ўжо кансультаваўся ў тым ліку з выдатнымі анколагамі ў Маскве, і мы прыходзілі да вельмі несуцяшальнай высновы...

**З УСПАМІНАЎ ГЕНАДЗЯ МУРАЎЁВА (з кнігі «Наш Быкаў»)**

*Якім я запомніў Васіля Уладзіміравіча ў апошнія дні яго жыцця? Вельмі сціплым, цярплівым і мужным, спакойным і разважлівым. Аніякага адцення страху ці панікі. Добра ўсё разумеючы, ён і тут быў прыкладам сапраўднага беларуса...*

Але зараз я нічога не адказаў, Васіль жа Уладзіміравіч працягваў гаварыць: «Ведаеце, Генадзь Мікалаевіч, я вось усё шукаю апраўданні, каб неяк усцешыць душу, бо памятаеце, як тады, дваццаць гадоў таму, задаў Вам пытанне, ці не магло вельмі кепска паўплываць на стан здароўя маёй жонкі тое, што мы рассталіся з ёй. Ці не мог гэты працяглы стрэс паўплываць на тое, што яна захварэла на рак?»

«Безумоўна, Васіль Уладзіміравіч, — адказаў я. — Такі працяглы стрэс і ў такой форме, якую яна тады перажыла, паўплываць, безумоўна, мог».

Пасля яшчэ некалькіх фраз Быкава я адчуў, што пытанне гэта непакоіла яго, мусіць, усё жыццё. Ён перажываў і, напэўна, каяўся — каяўся перад Богам ці перад самім сабой. Я перакананы, што ў тым, што здарылася з Надзеяй Андрэеўнай, ён адчуваў вельмі вялікую сваю віну. Напэўна, адчуваў яе да апошніх сваіх дзён...

Іншым разам у нас зайшла такая гаворка... Ужо не памятаю, чаму я сказаў: «Васіль Уладзіміравіч, Вы ведаеце, я ўсё жыццё жыву ў Менску і, дарэчы, у акупацыі быў таксама ў Менску, усе гады вайны...» «А колькі Вам гадоў?» — запытаўся Быкаў. «Я нарадзіўся 15 красавіка 1938 года, і, калі пачалася вайна, мне было тры гады два месяцы. Дарэчы, я вельмі добра памятаю 22 чэрвеня 1941 года. У гэты час я быў з дзядулем на Камсамольскім возеры. Памятаю, як мы ішлі пешкі дахаты, бо перасталі хадзіць трамваі... Усе тры гады я быў з дзядулем і бабуляй у акупаваным немцамі Менску». «А з чаго вы жылі? Трэба ж было нешта есці», — спытаў Васіль Уладзіміравіч. «Дзядуля з бабуляй нешта, мусіць, рабілі. Я і да гэтага часу не ведаю, што яны рабілі, на што жылі. Гэтае пытанне ні дзядулі, ні бабулі я ніколі не задаваў. Можа, дзе-небудзь падпрацоўвалі. Можа, дзядулю немцы нейкую пенсію плацілі — тады ж хадзілі нашы, савецкія рублі. Я толькі адно добра памятаю: я не галадаў. Каб з голаду паміраў — такога не было... І да гэтага часу добра памятаю: калі быў зусім малы, дзядуля недзе здабыў цукар-рафінад, а я, дурны, памяняў яго ў старэйшых хлопцаў на прыгожы дроцік з малюначкам. Дзядуля вельмі сварыўся на мяне, калі даведаўся, што ў нас не засталося ніводнага кавалачка цукру». «Ведаеце, Генадзь Мікалаевіч, — сказаў на гэта Быкаў, — я даўно хацеў больш шчыльна спрычыніцца да гэтай тэматыкі, таму што, Вы ж добра ведаеце, пад акупацыяй былі мільёны людзей. І самае дзіўнае — што мяне і цікавіла, — як яны, на што жылі. У вёсцы — гэта зразумела, але ж былі вялікія гарады: тая ж Адэса, Растоў, Кіеў, Менск... Так, у гады нямецкай акупацыі цяжка было: і расстрэльвалі, і ўсё астатняе. Але не было такога голаду, як, напрыклад, ва Украіне ў пачатку 30-х гадоў ці на Волзе. Не было і выпадкаў канібалізму, як зноў жа ва Украіне і на Волзе, калі маці, у якой было шмат дзяцей, аднаго забівала, каб астатнія яго елі. Я заўсёды хацеў узяцца за гэтую тэматыку, неяк адлюстраваць яе ў сваіх творах, хацеў напісаць аповесць...»

Праўда, на гэта я сказаў: «Ведаеце, самае цікавае, я добра памятаю 3 ліпеня 1944 года — як вызвалілі Менск ад немцаў. Я і да гэтай пары памятаю і на выгляд, і на смак амерыканскі бекон. Каб не гэтая тушонка, я, мусіць, памёр бы — ад голаду».

Васіль Уладзіміравіч быў чалавекам негаваркім, нават калі яшчэ здаровы быў. Аднойчы ў нас зайшла гаворка... нават не ведаю, з якой нагоды... Я кажу: «Васіль Уладзіміравіч, са мной Вы можаце шчыра размаўляць, без усялякіх-якіх, а з некаторымі... — тут я сказаў больш мякка: — А некаторыя, можа, не зусім Вас разумеюць».

Быкаў імгненна адрэагаваў: «Генадзь Мікалаевіч, а я ніколі не хаваў сваіх думак і сваіх поглядаў ні перад кім. Я кажу тое, што думаю».

*— Раней Вы сказалі, што пыталіся ў Быкава дазволу, каб прыйшоў Някляеў. Васіль Уладзіміравіч кожнага разу ведаў, хто да яго прыйдзе?*

— Да 17 чэрвеня ён заўсёды гэта ведаў. Потым, калі ўбачыў, што часу засталося вельмі мала, я ўжо не кантраляваў сітуацыю: хто прыйдзе — той прыйдзе. Пасля 17-га я ведаў, што яму засталося жыць тыдзень, не больш.

*— А тое, што прыходзілі ў гэтыя дні сябры, Быкава неяк падтрымлівала?*

— Я сказаў бы так: не шкодзіла. Мусіць, так.

*— Калі 19 чэрвеня мы былі ў Быкава, я ўключыў дыктафонны запіс Рыгора Бакланава, які віншаваў Васіля Уладзіміравіча з днём народзінаў. Напярэдадні я пазваніў шэрагу расійскіх літаратараў, у тым ліку і Рыгору Якаўлевічу. Дык вось, было прыметна, як цяжка задыхаў тады Быкаў, як яго гэта ўсхвалявала. Мы з Генадзем Мікалаевічам Бураўкіным нават хацелі спыніць запіс. Але ці трэба былі гэтыя эмоцыі Быкаву?*

— Патрэбныя. Патрэбныя без усялякага сумнення.

*— На той касеце былі віншаванні і словы падтрымкі іншых літаратараў: Валянціна Аскоцкага, Барыса Васільева, Данііла Граніна, Фазіля Іскандэра, Лазара Лазарава, але даваць слухаць іх Быкаву я ўжо не наважыўся. Мо ўсё ж варта было гэта зрабіць?*

— Варта было.

*— 19 чэрвеня, калі стан здароўя Быкава пагоршыўся, Генадзь Бураўкін перадаў яму Вашыя словы, што праз тыдзень Васіль Уладзіміравіч зможа на тыдзень вярнуцца дамоў, затым трэба зноў у бальніцу, што, калі ўсё будзе добра, бачыцца будзем яшчэ працяглы час... Паведаміўшы тое Бураўкіну, Вы, пэўна, такім чынам не хацелі пазбаўляць Быкава надзеі?*

— Так, гэта я казаў, каб проста неяк падтрымаць.

*— Проста супакойвалі?*

— Канешне. Хачу сказаць болей: калі ў пятніцу прайшлі ўсе абследаванні і мы ішлі з гэтага корпуса ў мой кабінет, дык па дарозе зайшла гаворка пра тое, што будзе далей, і я запытаўся: «Васіль Уладзіміравіч, як Вы паставіцеся да таго, каб легчы ў наш інстытут?» Ён адразу спытаў: «А карысць будзе?» І, імгненна — у долі секунды, — адчуўшы маю няўпэўненасць, сказаў: «Ну а ўвогуле, мусіць, так будзе лепей для маіх родных». Быкаў усё разумеў.

Тое, што рабілася для яго цягам гэтых двух тыдняў у інстытуце, ніколі тут не рабілася. Калі б ён не звярнуўся да нас, дык памёр бы дома яшчэ 11 чэрвеня. Пакуль прыехала б «хуткая дапамога», пакуль знайшлі б пэўныя лекі... Так, ён бы памёр яшчэ 11-га... Я сам сабе паставіў задачу: дацягнуць да дня яго нараджэння, каб ён у поўным розуме сустрэў яго, каб сябры прыйшлі і павіншавалі.

*— Уладзімір Някляеў пасля прыгадваў, што ў калідоры каля палаты Быкава чакаў святар...*

— Святар быў, але гэта ўжо не мая справа. Ці заходзіў ён да Васіля Уладзіміравіча, ці не, я не ведаю.

*— Вядома, што ў апошнія дні Васіль Уладзіміравіч хацеў, каб яго адвезлі дамоў. Для Вас як урача гэта вельмі складанае пытанне...*

— Так, вельмі складанае. Справа ў тым, што такое пытанне сапраўды паўставала...

*— Васіль Уладзіміравіч сам гаварыў?*

— Так, недзе 17-га, бліжэй да вечара... Не, 18-га. Я зайшоў да яго раніцай, гэта быў чацвер. Я звычайна раніцай да яго заходзіў, і мы размаўлялі. Тады ён і сказаў: «Генадзь Мікалаевіч, наколькі будзе карысна, калі Вы мяне выпішаце і адвезяце дамоў?» Я адказаў: «Васіль Уладзіміравіч, чацвер — такі дзень... Можа, ужо пачакаем выхадных? Тады і паглядзім». Потым прыехаў Валодзя Някляеў, мы гадзіны ў тры зайшлі, пабылі хвілін сорак. Спачатку ўдваіх былі, потым я аднаго Валодзю пакінуў... Справа ў тым, што ўвечары 18-га Быкаў быў ужо нетранспартабельны: ён памёр бы, пакуль яго пераносілі б у машыну.

*— А з Ірынай Міхайлаўнай Вы размаўлялі пра тое?*

— Не, ані разу. І яна нічога не гаварыла мне.

*— Наогул складваецца ўражанне, што Ірына Міхайлаўна не ўсё ведала...*

— Так, яна не ўсё ведала. Можа быць, у нейкай ступені ў нечым і арыентавалася, але з прычыны адсутнасці медыцынскай адукацыі да канца, вядома, усё не разумела.

*— Пасля ўжо Ірына Міхайлаўна гаварыла, што ў Быкава не было «высокага памкнення прыязджаць на радзіму паміраць». Мабыць, Васіль Уладзіміравіч не пра ўсё ёй распавядаў, каб не турбаваць?*

— Не, яна не разумела. Можа, праз жаночы характар нешта інтуітыўна і адчувала, але да канца не магла ўявіць, што наогул адбываецца.

*— У апошні дзень Васіль Уладзіміравіч знаходзіўся ў прытомнасці?*

— 22 чэрвеня ў 14.00 свядомасць яго стала цьмянаю, заблытанай, ён ужо не вельмі адэкватна рэагаваў. А недзе ў тры гадзіны, а палове чацвёртай канчаткова страціў прытомнасць.

*— І што тады прадпрымалася?*

— Толькі падтрымліваліся жыццёвыя функцыі: сардэчнасасудзістая сістэма, дыханне.

*— Вы тады знаходзіліся ў палаце Быкава?*

— Не, там была дзяжурная брыгада — яна добра ведала, што трэба было рабіць, не першы і не апошні такі хворы ў іх быў. Гэта былі самыя дасведчаныя рэаніматолагі. Мне там і не патрабавалася знаходзіцца, бо і так ужо ўсё зразумела было. Мне ўвесь час тэлефанавалі з рэанімацыі і ўсё расказвалі... Фактычна Васіль Быкаў памёр ад ракавага працэсу, ад таксікацыі — печань і ныркі ўжо не спрацоўвалі.

*— Пасля казалі, што ён задыхаўся...*

— Ну, як і кожны чалавек, калі памірае, — дыханне яго робіцца частым.

*— І прытомнасць да яго ўжо не вярталася?*

— Не.

*— Гэта Вы спынілі гадзіннік Васіля Уладзіміравіча пасля яго смерці?*

— Не. Наогул справа ў тым, што існуе паняцце клінічнай смерці. У Быкава яна настала ў 20.10. Звычайна гэта фіксуецца ў гісторыі хваробы. Але і пасля рэанімацыйныя мерапрыемствы праводзяцца ў поўным аб'ёме. Звычайна рэанімацыя працягваецца паўгадзіны. Калі яна безвыніковая, тады ўжо спыняецца. У Васіля Уладзіміравіча рэанімацыя працягвалася сорак хвілін: адрэналін у сэрца і г. д. У 20.50 была канстатавана біялагічная смерць.

*— Такім чынам, можна лічыць, што Васіль Быкаў памёр у 20.50?*



— Сэрца спынілася ў 20.10. Потым яго падтрымлівалі ўжо штучна.

*— Пасля гаварылі, нібыта Аляксандру Лукашэнку кожны дзень клаліся на стол дакладныя пра стан здароўя Васіля Уладзіміравіча. Гэта праўда?*

— 9 чэрвеня, у панядзелак, недзе ў чатыры гадзіны прынеслі цыдулку ад намесніка кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Праляскоўскага са словамі: «Просьба зрабіць усё магчымае...»

*— Нібыта гэта магло неяк паўплываць на тое, што Вы рабілі, нечаму паспрыяць!*

— Не-е! Абсалютна ніяк не ўплывала. Мы проста рабілі сваю справу. Штодня збіраліся кансіліумы анколагаў, кардыёлагаў, радыёлагаў, алерголагаў, хіміятэрапеўтаў... Усё было на самым вышэйшым узроўні. Але, на жаль, было ўжо позна.

*— Дык сапраўды кожны дзень ішлі дакладныя ў адміністрацыю?*

— Не думаю, што гэтыя даведкі рабіліся штодня. Штодня былі, мусіць, тэлефанаванні і даклады пра стан здароўя.

*— Але не Вы гэтым займаліся?*

— Гэта не я.

*— З адміністрацыі прэзідэнта нехта хацеў наведаць Васіля Уладзіміравіча?*

— Было адно тэлефанаванне, але я не зразумеў, чаго ад мяне хацелі. Не зразумеў, і ад чыйго імя: ці Лукашэнкі, ці Латыпава.

*— Не зразумелі, хто Вам званіў?*

— Мне цяжка сказаць. Па-мойму, Латыпаў — вельмі падобны быў на яго голас, які я раней толькі па тэлевізары чуў.

*— Ён званіў аднойчы?*

— Так. Пасля ўжо патэлефанаваў Гедройц.

*— Але ніхто з іх да Быкава так і не прыйшоў?*

— Не, ніхто... У гэты час у нашым інстытуце ляжаў адзін віцэ-прэм'ер — мы яго аперыравалі, дык вось да яго якраз хадзілі...

*— Някляеў пасля казаў, што ў Лукашэнкі быў тады шанц прыадчыніць дзверы і сказаць: даруйце альбо прабачце.*

— Быў, канешне... Калі Васіль Уладзіміравіч памёр, тады ўжо і пачаліся розныя тэлефанаванні: Чаргінец, яшчэ нехта з адміністрацыі прэзідэнта. Казалі, што будзе арганізаваная дзяржаўная камісія па пахаванні і прыедуць вайскоўцы, каб забраць цела. На гэта я адказаў: «Не, апроч жонкі і сына, нікому цела не аддам. Прабачце». Я яшчэ пасля распавёў пра гэта Бураўкіну. Альбо жонка, альбо сын, альбо абое, але ніякіх вайскоўцаў. Праўда, пасля мне яшчэ раз пазванілі з тым жа пытаннем, але я зноў даў адмоўны адказ.

*— Генадзь Мікалаевіч, у Празе Быкаву не раілі ехаць у Мінск, пакуль не будуць скончаны тры курсы хіміятэрапіі. Але ён паехаў. Як на Вашую думку, відаць, Васіль Уладзіміравіч адчуў, што ўсе спробы выратаваць яго марныя?*

— Безумоўна.

*— І, дарэчы, калі па вяртанні ў Мінск ён сустрэўся з Бураўкіным, дык на пытанне Генадзя Мікалаевіча, ці надоўга прыехаў, Быкаў адказаў: «Назаўжды».*

— Вось калі ён упершыню пазваніў мне, я запытаўся: «Васіль Уладзіміравіч, Вы нікуды больш ужо не збіраецеся ехаць?» І ён цвёрда адказаў: «Не, больш нікуды не паеду».

*— Значыцца, ён ужо адчуваў ці здагадваўся, што часу ў яго больш не засталося?*

— Так, здагадваўся ці адчуваў.

**Есть на свете люди, которые сравнимы с родником. Летом он журчит, рядом с ним не жарко, вокруг щебечут птицы. Зимой он тоже журчит и не замерзает. Осенью, даже поздней, в него не падают грязные листья, а весной рядом с ним зеленеет первая трава.**
**Когда тревожно, его журчание успокаивает, а иногда его хрустальный гул ободряет и вдохновляет на что-нибудь путное. Но самое главное: побывал у такого родника – и все ненужное словно смывается, и мир вокруг обретает какие-то совершенно невероятные краски.**
**Ко мне судьба добра, я встречаю таких людей. Одному из них посвящаю этот рассказ, а о нескольких попытаюсь вспомнить.**



Меня зовут Дария Шерлат. Родилась и живу в Литве, в городе с очень спорной изначальной принадлежностью, который теперь называется Вильнюс. У литовцев есть своя легенда по поводу его основания, знаю, что существуют и другие, но к данному повествованию это не имеет никакого отношения.

Я понимаю и принимаю Владимира Набокова еще и потому, что так же двуязычна, как и он. Так же и живу: между двумя народами, двумя культурами – русской и литовской. Имя мое славянам кажется каким-то экзотическим, да и бабушку, в честь которой меня нарекли, звали по-русски – Дарья. Скорее всего, в мое имя закралась какая-то ошибка работника литовского ЗАГСа, хотя мой папа утверждал, что это не имеет решительно никакого значения и все зависит от местной фонетики.

Фамилия мне досталась от мужа. Происхождение ее также окружено весьма сомнительными (или бесспорными) легендами, но и это не имеет к делу никакого отношения. Могу утверждать лишь одно: мой муж – поляк с многовековой принадлежностью именно к этой местности.

Упомянула я известного писателя еще и потому, что хочу предложить на ваш суд свое «прочтение» его «Других берегов». Мои берега связаны с другим местом и другим временем. А в данном контексте в них лейтмотивом пройдет белорусский след, оставленный волею судьбы в моей памяти.

# В калейдоскопе детства

**Детские воспоминания всегда вертятся и складываются, как стеклышки в калейдоскопе, — причудливо, и каждый раз, при следующем повороте этой магической трубки они создают новый неповторимый рисунок. И вроде бы они лежат на поверхности, возьми и «зачерпни», но не тут-то было — ускользают, как маленькие юркие рыбешки! Потому прошу читателей не судить меня строго и не искать в этом рассказе исторических соответствий в хронологическом порядке. Это всего лишь детские воспоминания, связанные с очень милыми, умными и интересными людьми.**

Сейчас я понимаю, что мои родители — Маргарита Федоровна Лозинская и Олег Васильевич Копченов — были, как это теперь называется, людьми светскими. В нашем доме часто бывали гости. Много пели, читали стихи, слушали разную музыку, подолгу и шумно беседовали. В современном постоянно набирающем ускорение мире уже сложно найти такую уютную компанию, в которой споры и дискуссии не умолкали бы до утра.

Моя мама окончила Московский историко-архивный институт и работала в архивах Литовской ССР почти до конца существования этой республики. Сначала она занимала должность заместителя директора исторического архива, затем стала начальником организационного отдела центрального архивного управления. Она была не только прекрасным специалистом в своей области, очень умной, обаятельной женщиной, но и — совершенно объективно — слыла красавицей. Очень любила поэзию и прекрасно в ней разбиралась, а столько стихов и песен наизусть, как знала она, пожалуй, знает далеко не каждый профессиональный артист.

К ее достоинствам могу отнести еще одно — только приехав в Литву, она сразу же стала изучать местный язык, и в нем, бесспорно, преуспела: свободно читала, писала и разговаривала практически безо всякого акцента. За это ее уважали не только сослуживцы, но и местные жители. Именно благодаря ей и я знаю этот довольно сложный и очень красивый язык.

У мамы на работе меня очаровывал какой-то необыкновенный запах. Долго казалось, что так и пахнет история. К сожалению, теперь ассоциация эта упростилась — я поняла, что так же пахнет и на моем рабочем месте: немножко табачным дымом, немного кофе, а в основном так пахнут книги, документы, фотографии и тому подобные вещи, сопровождающие любое связанное с кабинетным бдением дело.

Одно время мама работала с дядей Геной Киселевым (Геннадием Васильевичем Киселевым), возможно, это было в годы ее службы в историческом архиве. Для меня это время осталось памятным из-за двух небольших книжечек — «Энеида наизнанку» и «Тарас на Парнасе». Нет, читать я еще не умела, да и не поняла бы содержания, но в книжках были картинки, а еще я узнала, что белорусский язык — это не «белый русский», а нечто совсем отдельное. К тому времени благодаря маме я уже очень неплохо говорила и по-литовски, поэтому с маниакальным упорством ребенка требовала от дяди Гены, чтобы он объяснил про «отдельный белорусский язык».

Пришлось понимать самой. Дядя Гена вскоре уехал жить и работать в Минск, и мы больше не встречались. Но я поняла: белорусский — совершенно особый язык, и вообще, у каждого языка существует своя мелодия, вне зависимости от грамматики, фонетики и алфавита. К сожалению, знаю белорусский язык не так хорошо, как хотелось бы, но «Энеиду» и «Тараса» прочла в оригинале. А из-за книжного дефицита в былые времена «Робинзона Крузо» читала только по-белорусски.

…На папиной работе пахло иначе. Это был какой-то технический запах. Табаком, пожалуй, тоже пахло, но доминировал запах расплавленной канифоли, нагретого электрического провода и краски от теплого металлического корпуса. Везде лежали стопки перфокарт, трещали осциллографы и другие, до сих пор не известные мне, приборы.

Дело в том, что папа был начальником службы автоматики главного управления энергетики Литовской ССР, заслуженным энергетиком этой республики, а затем и независимой Литвы, ученым-рационализатором и доктором технических наук. Он окончил Московский институт энергетики (теперь МЭИ), получил распределение в Вильнюс и трудился на благо новоприобретенной родины до самого конца своих дней.

Самое удивительное из папиных качеств — его всесторонняя образованность. Грешным делом я думаю, что и в истории он разбирался лучше мамы.

Филология была для него чем-то вроде разминки для ума. Причем не только русская, он читал и по-польски, по-белорусски, конечно, по-литовски, хотя разговорный литовский окончательно усвоил уже в преклонном возрасте. Любил сравнивать эти языки, интересовался происхождением слов и понятий.

Именно с папой в моей памяти связано воспоминание о появлении в нашем доме дяди Антона (Антон Фабианович Шантыр).

Этот невысокий, милый, очень тихий и интеллигентный человек приходил к нам почти каждую пятницу. Я ждала такие пятницы. Во-первых, впереди два выходных, и родители будут дома, а во-вторых, эти пятницы всегда были интересными: я наравне со всеми могла сидеть за столом, ужинать и слушать все «взрослые» разговоры, да и принимать в них участие.

Дядя Антон приходил где-то около восьми вечера. Всегда приносил с собой что-нибудь интересное: то какие-нибудь невиданные цветы, то невероятно вкусные яблоки и груши. Я знала, что его маму зовут Людвика Антоновна[1], и это меня немного по-детски удивляло, ведь и его звали Антоном. Как-то раз он принес ягоды (черные и желтые), которые назывались ежевика, и с этого времени в моей детской памяти появилось созвучие: Людвика — ежевика. Как ни странно, созвучие осталось у меня по сей день, а те ягоды, как позже выяснилось, выращивала именно мама дяди Антона, причем желтые были чуть ли не новым, созданным ею, сортом.

Однажды дядя Антон принес под мышкой что-то завернутое в газету. Сразу мне не показал и только после ужина развернул сверток. Там оказалась книжка. В нашем доме было много книг, конечно же, предостаточно и детских, но этой не было. Это был «Винни-Пух и все-все-все» Алана Александра Милна в переводе Бориса Заходера. В моей детской жизни она оказалась первой «серьезной» книгой, обратившей на себя мое внимание. Долгое время, каждый вечер, книга сначала читалась, а затем и перечитывалась мне по главе перед сном. Прекрасный советский мультфильм был поставлен по мотивам этого произведения. Но мой настырный детский ум находил в мультике уйму «несоответствий» и «неполное изложение материала»! Громко протестовала я по этому поводу и делилась своим возмущением с родителями и дядей Антоном. Родители снисходительно улыбались, а вот дядя Антон совершенно серьезно сказал: «Ну что же, может, вырастешь и сделаешь более точный мультфильм». Как я тогда загорелась этой идеей! Но мультфильма так и не создала, а вот теперь, когда перевожу Бориса Заходера на литовский язык, всегда почему-то с благодарной улыбкой вспоминаю именно дядю Антона.

*Хацела да цябе напісаці*
*На пялёстку ружы пахучай,*
*Але пялёстак мог згінуць*
*У пору буры грымучай.*

*Хацела да цябе напісаці*
*На скрыллі у матылёчка,*
*Але матыль уміраe,*
*Як прыйдзе цёмная ночка.*

*Хацела я ліст паслаці*
*Праз ластаўку з нашага дома,*
*Але ж яна магла даці*
*Яго каму-небудзь другому.*

*І так дзянёчкі праходзяць...*
*Не маю яго як паслаці,*
*А ліст такі ўжо сардэчны*
*Хацелася напісаці.*

*Зоська Верас*

Вскоре книгу пришлось вернуть — так мы с дядей Антоном и договаривались.

Некоторое время спустя, накануне Нового года, мой старший брат Коля (Николай Олегович Копченов, журналист, один из создателей «Брестского курьера» и газеты «Беларуская маладзёжная») получил задание купить елку. Что-то наподобие «елки-палки» он и приобрел. Разочарованию не было предела, я подняла такой вой, что папа не выдержал, захватил топор, разозлившегося на разбалованную сестренку Колю, и поехали они в лес к дяде Антону и Людвике Антоновне за елкой.

Было уже поздно и темно, к тому же начиналась метель. Помню, мама очень волновалась, а я перестала всхлипывать, притихла и села с ней и бабушкой Верой у окна дожидаться родных и, конечно же, елку. Но вот сверкнули в темноте фары, машина остановилась, и из нее вышли папа и Коля. С трудом они вытащили елку! Домой зашли заснеженные, замерзшие, но довольные. Папа сразу сходил в подвал за «крестом», елку поставили, с нее потихоньку капал таявший снег, и вокруг возник какой-то необыкновенный, сказочный запах.

За чаем папа подмигнул и сказал: «Это тебе от Людвики Антоновны, дяди Антона, зайцев и медведя». А затем рассказал, что в лесу было так темно и так разошлась метель, что никакой фонарик не помогал. Они с Колей уже было опустили руки, но дядя Антон оставил их в доме, а сам пошел и вырубил эту елочку, как он сказал, «на ощупь».

[1] Людвика Антоновна Сивицкая-Войтик — Зоська Верас.

